Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991
Выдавец Рэдакцыя газэты «Наша Ніва»

# НАША НІВА

VIII год выданьня
http://members.xoom.com/Nasa_Niva

14 верасьня 1998 г.

№17 (114)

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# САМАЯ ТАННАЯ Ў СЬВЕЦЕ ГАРЭЛКА

*Беларускі антырэкорд*

**У кнізе рэкордаў Гінэса Беларусь прадстаўленая трыма сваімі ня тое каб дасягненьнямі ці набыткамі, а, скажам так, парамэтрамі. У нас самае буйное ў сьвеце балота — Вялікі Мох на Віцебшчыне, самае вялікае пахаваньне людзей — Курапаты і самая маштабная экалягічная катастрофа — Чарнобыль. Адзін парамэтар прыродны, а два другія — рукатворныя.**

**Апошнім часам у нас пастаўлены яшчэ адзін сусьветны рэкорд, але ўжо не ў найвялікшым, а ў найменшым вымярэньні. У нас самыя нізкія ў сьвеце кошты на гарэлку. Нідзе ў іншай краіне паўлітра гарэлкі не каштуе менш за даляр. Магчыма, гэты рэкорд, на першы погляд, носіць эканамічны або сацыяльны характар. Тым ня менш, у ім, як у фокусе, адлюстроўваецца ўсё наша цяперашняе жыцьцё разам зь ягоным культурным кантэкстам.**

**Самая танная... Што б гэта значыла? Простая лёгіка кажа так: улады самым адкрытым чынам спойваюць народ. Альбо такое тлумачэньне: гэта значыць, што ў Беларусі самыя нізкія ў сьвеце даходы насельніцтва.**

**Духоўнасьць або роля алькаголю ў здаровым ладзе жыцьця, або ў мастацкай творчасьці — няхай гэтыя тэмы застануцца за рамкамі сёньняшніх развагаў. На маю думку, яны тут і ні пры чым. Тым больш, што ў мяне асабіста не складаецца ўражаньня, што ў Беларусі паболела п'яніц.**

*Працяг на старонцы 4*



*Здымак Уладзімера Парфянка*

# ЗА МІР ПАМІЖ СЕМ'ЯМІ

**Алег Дашкевіч**

Фільм «Хросны Бацька», які выйшаў на сусьветны экран у пачатку сямідзясятых, называюць геніяльным гангстэрскім баявіком. Між тым, гэта яшчэ й карціна, дзе сьцьвярджаюцца традыцыйныя каштоўнасьці чалавечай цывілізацыі і перш за ўсё — каштоўнасьць сям'і.

Фільм выйшаў у той час, калі ў заходнім сьвеце ішла магутная хваля разбурэньня традыцый. Зноў былі падняты сьцяг з камуністычнымі лёзунгамі, толькі што адшумелі студэнцкія бунты ў Францыі, друк стракацеў навінамі пра дзейнасьць тэрарыстычных лявацкіх груповак, кшталту «Чырвоных брыгадаў» у Італіі ды «Чырвонай арміі» ў Нямеччыне, па Заходняй Эўропе і Паўночнай Амэрыцы каціласа сэксуальная рэвалюцыя. Пасьля Віетнамскай авантуры ў Штатах актывізаваліся рознага кшталту маргіналы — ад радыкальных мурынскіх «Чорных пантэраў» да расісцкага «Ку Клукс Клану» і да ўсяго абыякавых «хіпі». Фільм Фрэнсіса Форда Копалы стаўся адказам на хаос. Кінааповесьць пра гангстэрскую сям'ю Дона Карлеонэ — гэта сьцьвярджаньне сутнаснае вартасьці клясычнай чалавечай традыцыі й яе галоўнага складовага элемэнту — сям'і.

Ґалоўны герой фільма — мафія (у перакладзе — ўсё тое ж — сям'я). Я зьвяртаю на гэта ўвагу, бо па прынцыпу сям'і будуецца любая супольнасьць — уласна сям'я, крымінальная банда, нацыянальная дзяржава. Менавіта з гэтага боку мне цікава разгледзець сытуацыю ў нашым сёньняшнім грамадзтве.

Здаровая сям'я — здаровае грамадзтва. Гэты пастулят стары, як сьвет. Здаровая сям'я — значыць, традыцыйны герархічны парадак, аўтарытэт бацькоў і перш за ўсё бацькі, як галавы. Бацька — гэта надзейнасьць, моц, справядлівасьць. Ён павінен быць здольны падтрымваць свой маральны аўтарытэт дзе розумам, дзе сілай, дзеючы паводле пісаных і непісаных законаў. Калі бацька траціць аўтарытэт, гэта рана ці позна адмоўна адаб'ецца на сям'і, яна ня вытрымае канкурэнцыі зь іншымі сем'ямі. Каб такога пазьбегнуць, мусіць быць падрыхтаваны пераемнік. Новы бацька. Пра гэта павінна клапаціцца ўся сям'я, прынамсі яе ўплывовыя чальцы.

*Працяг на старонцы 2*

# ПАЛЕНЬНЕ

**Павал Севярынец**

*Ахвярую бацькам, выпускнікам расейскага філфаку*

*І толькі калі прамоўца сышоў з эшафоту,*
*прынесьлі гаручую находню.*

В.Ластоўскі. Паленьне кніг на Беларусі

*... крэпкае сухое паленьне...*

«Наша Ніва», №1

***

Ад беларусаў пахла дымам. Гэта быў той гаркаваты, трывожны дымок чыгуначнай цягі, пах перасмоленых шпалаў і вугалю, які не выветрываецца на станцыях і вакзалах.

Толькі што прайшліся, праверылі дакумэнты прыбалты, хлопцы папрасьцей і чысьцейшыя. Адзначылі кожнае купэ сваім запаволеным, старанным выгаварам зь нетаропкай запінкай, і застаўся ад іх толькі шчоўк зачыненых дзьвераў напрыканцы вагона.

Зайшлі нашыя. Пашморгваючы, напаўголаса нешта гаворачы, з холаду – яны занесьлі ў надыханы вагон дымавітую сьвежасьць. Усе, хто ехаў, пагляддалі на іх залапочана, з насцярогай –ну, што там?.. Не, тут вам ніхто нічога ня скажа. Гэта словамі не перадаць. Прыедзеце, убачыце самі.

Пад шумок я пачуў безупрэчнае чэ, такое шчырае, што вільготна пацяплела ўваччу. Старэйшы, вусаты, узяў працягнуты пашпарт; вочы на міг вынырнулі з-пад ценю фуражкі, зірнулі, і зноўку схаваліся ў цемень пад казырком. Зараз спытае, чаго вязу. Кнігі. Што яшчэ? Усё, толькі некалькі кнігаў, і больш мне нічога ня трэба.

Той маўчаў, варушыў вусамі і разглядаў старонкі так пільна, нібыта дзяржаўная мяжа пазначалася дзесьці там, між дробненькіх літарак. Нарэшце, ледзь заўважна хітнуў сам сабе – усё правільна.

Я схаваў пашпарт глыбей, пад крыло сьпінжака, і ўладкаваўся на сваёй бакавушцы больш ёміста й грунтоўна. Што ж, наперадзе –цёмная ноч насустрач руху, нямы халадок з-пад вакна, і чаканьне, на якое адпушчана столькі й столькі тахтаў чыгунчага перастуку. Паедзем, і недзе пасьля Маладзечна, бліжэй да гораду, трэба будзе выйсьці ды выпаліць штучку. Паліць я кінуў даўно, маю на ўвазе тыдні. Але тут без цыгарэты не абысьціся. Можна й псыхіку пасадзіць, сур'ёзна. Такія справы.

Вакол варушыліся пасажыры, шукаючы пад коўдрай чагосьці цяплейшага, укладваліся й шэптам перагаворваліся. Няважна, пра што. Сьпіце спакойна. Я знаю, так спакайней, калі засынаеш, а нехта ўначы сядзіць ля вакна, як вартавы, і думае, падпіраючы падбародзьдзе.

Мне сёньня ня спаць да самага Менску. Перш чым там выйсьці, трэба яшчэ раз усё перадумаць. Падрыхтавацца да ўсякага абароту падзеяў. Выразна ўявіць сабе, дзеля чаго я пакінуў утульную Вільню, з гэткім сьпехам ды грукатам рассоўгаў архівы свае па шуфлядах і бегма рвануў на вакзал. Да падрабязнасьцяў перабраць: як будзе выкарыстаны страшны груз, ад каго трымацца падалей, і што мне сьвеціць пасьля. Я застаўся адзіны, але, здаецца, пакуль ня выдаў сябе нічым, ня здрадзіў, і не аступіўся. Урэшце, трэба быць гатовым – адным ударам зьдзейсьніць найвялікшую кару, да якой я ішоў усё жыцьцё. Зьдзейсьніць, як мага пачварней, каб атрымаць яшчэ больш пачуцьця. І ўбачыць, на свае вочы крах тае магутнае сілы, якой мы баяліся. І каяцца... Ну, паглядзім.

Такі паўзмрок перад экранам вакна й столік на бакавушцы быццам прыдуманыя для пагойдваньня ды перастуку. Для таго, каб сядзець аднаму, вырашаючы самае важнае, і падтакваць рухамі рук. Я ціха.

*Працяг на старонцы 4*

# падтрымкі

*лікадзяржаўнага расейскага шавінізму задушыць вольную тарашкевіцу. Не атрымаецца!*

**Ваш пастаянны чытач Леанід Гаравы, Гарадок**

*Паважаная рэдакцыя газэты «Наша Ніва»,*

*вашая бескампраміснасьць і мужнасьць, абумоўленыя прагай да свабоды й незалежнасьці, непрымірымыя крокі, скіраваныя супраць гвалтоўных дзеяньняў ураду, запэўнілі нацыянальна сьвядомых беларусаў у вашай непадкупнасьці й добрасумленнасьці. Мы сьвята верылі кожнаму вашаму слову, бо бачылі, як, прыкладаючы неймаверныя намаганьні, вы выконвалі дадзеныя абяцаньні. Імкнучыся адпавядаць высокаўзьнятым эўрапейскім стандартам, вы сумленна выконвалі свой абавязак, несучы да чытача сапраўдную праўдзівую інфармацыю, узбагачаючы яго культурна-інтэлектуальны ўзровень. Ня здраджваючы ідэалам абвешчанай у 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі, вы старанна захоўвалі беларускі правапіс, прыўносячы ў скарбонку нашае мовы новыя ці дарэмна пазабываныя словы.*

*Як падпісанты «Хартыі-97», мы ня можам застацца ўбаку ад адкрытага перасьледу беларускай газэты «Наша Ніва» і патрабуем ад сёньняшняга ўраду неадкладнага спыненьня гвалту над свабодай слова.*

*Мы заклікаем усіх грамадзян Беларусі і ў першую чаргу чытачоў «Нашае Нівы» далучыцца да нашае ініцыятывы і падтрымаць газэту ў гэты нялёгкі для яе час.*

**Уладзя Жаўняк, Алесь Васьковіч, Сьцяпан Кульчанка, Максім Кульчанка, Андрэй Верашчака (усяго 12 подпісаў), Мар'іна Горка**

*Дабрыдзень, «Наша Ніва» –*

*апошні фарпост сапраўднае Беларушчыны. Мае словы падтрымкі –трымайма, хлопцы, і мы мусім стрываць. Бо што даражэй за роднае слова, хіба што нічога. А калі так, дык будзьма апрача мужнага трываньня яшчэ й змагацца супольна з халуямі ды акупантамі. Разам мы дужэй, і гэта дае спадзеў на перамогу, на нашую агульную перамогу. Бо акупанты й халуі кіруюцца адно жывёльнымі рэфлексамі. Кожны хоча ўчапіцца за фатэль улады й ускочыць на яго, а свайго ўчорашняга партнэра зьвер скіне ў прорву. Паміж жывёламі няма еднасьці, ёсьць адно – рэфлекс.*

*Жыве Беларусь вольна ад ваўкалакаў! Жыве вечна, што б ні адбылося!*

*P. S. Што да суда над мовай, дык тут няма нічога дзіўнага. Антыбеларускі рэжым дзейнічаць інакш ня можа. «Анты» – гэта ж супраць. А супраць чаго? Мовы, вядома, носьбітам якой і зьяўляецца «Наша Ніва». А бяз мовы няма нацыі, ёсьць толькі паслухмяная маса без нацыянальнасьці ў пашпарце й розуму ў галаве. Так што газэта нам патрэбна хаця б таму, што друкуецца на сапраўднай беларускай мове. А будзе сапраўдная беларуская мова, будзе й сапраўдны беларускі народ.*

**Тамаш Грыневіч, Рагачоў**

*Добры дзень,*
*шаноўная рэдакцыя газэты «Наша Ніва»!*

*Вашу газэту чытаю ад пачатку яе аднаўленьня ў 1991 годзе. Скажу шчыра, што пасьля наркамаўкі чытаць яе было цяжкавата. Тым ня менш, на сёньняшні дзень для мяне гэта самае цікавае, інтэлектуальнае і незалежнае беларускае выданьне. І для яго чытаньня няма ніякіх праблем. Болей за тое, хачу адразу адзначыць, што хацелася б, каб вы болей друкавалі на лацінцы. У гэтым я падтрымліваю ўсіх аўтараў, якія прапануюць часьцей і шырэй ужываць лацінку. Гэты шрыфт дазволіць беларусам адчуваць сябе сапраўднымі эўрапейцамі, калі стане дзяржаўным. Сёньня ж беларусы болей падобныя да мутантаў у абдымках азіяцкага «старэйшага брата».*

*Далей хачу прапанаваць чытачам наступную ідэю. Рана ці позна мы пазбавімся кіруючага бальшавіцка-камуністычнага-прарасейскага рэжыму. Нам абавязкова (для нашчадкаў) трэба будзе стварыць музэй пачварнага савецкага рэжыму. Для гэтага абсалютна добра падыходзіць сёньняшні Дом ураду на плошчы Незалежнасьці. Усю атрыбутыку – помнік Ільічу, герб, сьцяг – можна будзе захаваць. І толькі адпаведнай велічыні літарамі вывесіць назву «Музэй БССР». Памяшканьняў унутры дастаткова, каб туды памясьціць усіх Ільічоў, Дзяржынскіх і іншыя помнікі з усіх гарадоў і раёнаў Беларусі. У залі паседжаньняў зрабіць панарамную сцэну з васковых фігур дэпутатаў, якіх выкідваюць спэцслужбы прэзыдэнта.*

*Для новага, сапраўды беларускага дэмакратычнага кіраўніцтва варта адбудаваць новы, сучасны будынак.*

**З павагаю да вас — Аляксандар Грыгор'еў, беларускі настаўнік выяўленчага мастацтва, Менск**

*Паважаная рэдакцыя «Нашай Нівы»!*

*Выбачайце, што спазьнілася, але ня вельмі проста напісаць ліст у газэту, нават калі ёсьць час гэта зрабіць.*

*На Вашае пытаньне пра газэту і правапіс магу адказаць толькі адно: такая газэта павінна йснаваць, нават калі ўсе астатнія забудуцца, што азначае такі тэрмін – Тарашкевіца. Што пасьпяхова было зроблена некаторымі незалежнымі выданьнямі.*

*Спачатку я пачала выпісваць «Нашу Ніву» менавіта таму, што гэты правапіс забясьпечваў чыстую жывую беларускую мову. Упершыню я зразумела, што сьмяюцца дзеці ў школе толькі з наркамаўкі, таму што так званы новы правапіс не адпавядае жывому, а толькі мёртваму, а на мёртвай мове ніхто не гаворыць.*

*Спадзяюся, што нават у падпольлі Вы будзеце выходзіць, але можа ўлада спыніць цкаваньне Вашай-Нашай Нівы. Я разумею, што гэта марныя летуценьні, бо ведаю, як абыходзіцца ўлада з тымі, хто не адпавядае агульнаму стандарту.*

*Можа, будзеце друкавацца лацінкай – падумаюць, што польская мова і на некаторы час адчэпяцца?*

*Усё роўна, жадаю вам посьпехаў у Вашай працы, а таксама ў змаганьні з рознымі маразмамі, якіх у нашым жыцьці хапае.*

*Даруйце, калі ласка, памылкі, бо на беларускай мове пішу ўпершыню.*

**Ваша чытачка й падпісантка Алена Кавалеўская, Менск**

# БЕЛАРУСАМ ПАТРЭБНЫ СЬВЯТАР



У Менску пахавалі айца Яна Матусэвіча – Сьвятара і Беларуса.

Нашая Бацькаўшчына ўсё яшчэ мае дэфіцыт на людзей, якія б спалучалі ў сваёй асобе гэтыя два словы – сьвятар і беларус. Як і раней няма недахопу ў сьвятарах-паляках і, асабліва, у сьвятарах-расейцах.

Айцец Ян Матусэвіч распачаў служыць па-беларуску ў 1988 годзе, калі ў іншых касьцёлах увішныя крэсавячкі яшчэ вывешвалі польскія сьцягі. І гэтым учынкам прыцягнуў да сябе ўсеагульную ўвагу і сяброў, і непрыяцеляў.

Неяк я чуў думку, што ён любіў тытулы і пасады. Так, ён сапраўды быў сябрам кіраўнічых органаў шмат якіх арганізацыяў. Але – толькі беларускіх арганізацыяў.

Ён ведаў, што людзям патрэбны сьвятар і ня толькі ў царкве. Быў час, калі ён АДЗІН з каталікоў, калі не лічыць састарэлага беларускага ксяндза Чарняўскага ў Вішневе, сьведчыў прысутнасьць касьцёла ў беларускім грамадзтве. Яго не дэлегавала ў асяродзьдзе беларускай патрыятычнай інтэлігенцыі духоўная ўлада, як трэба было б. Ён прыйшоў туды сам. Ён адзін ратаваў гонар царквы. Ён сьведчыў, што царква не адвярнулася ад беларусаў. Ён паказваў людзям, што гэтак ёсьць. Хоць насамрэч у канцы 80-х - пачатку 90-х так не было...

Калі ўзьнікала нейкая новая арганізацыя і людзі прыходзілі запрашаць яго туды, ён згаджаўся, бо разумеў што прысутнасьць сьвятара надасьць аўтарытэту новай суполцы. Ён раздаваў сваё імя на добрыя справы.

Мала хто з сёньняшніх ксяндзоў здольны на гэткі ўчынак, які зрабіў ён у 1990 годзе, пакінуўшы цёплае і сытнае становішча пробашча ў Барунах і зьвязаўшы свой лёс з усходнім абрадам, з Уніяй. Пасьля ён няраз прызнаваўся, што зрабіў гэта толькі на просьбу беларускае інтэлігенцыі. Ён ня мог адмовіць сваім... Раскошны, велізарны храм у Барунах ён зьмяніў на палову заваленага кнігамі пакойчыка ў сваёй менскай хрушчоўцы. Менавіта там ён правіў свае першыя падпольныя Літургіі. 4 гады ён служыў, спавядаў, вянчаў і хаваў людзей без дазволу Ватыкана і ўладаў, і рабіў гэта па-беларуску. Ён ніколі ня браў зь людзей грошы за трэбы і ўсе чатыры паўлегальныя гады сваёй дзейнасьці ня меў ніякага заробку. Ці шмат хто здольны на гэта?

Ён быў мужным чалавекам. Не забудзьмася, што гэта ён спавядаў Юрыя Хадыку ў лукашэнкаўскай турме...

Лёс распарадзіўся гэтак, што мне пашчасьціла 5 гадоў блізка супрацоўнічаць з айцом Янам. Нам зь ім бадай нашмат больш, чым каму іншаму, выпала разам пахадзіць па чыноўніцкіх кабінэтах. Я ня памятаю выпадку, каб ён адмовіў мне пайсьці разам да нейкага чыноўніка, нават хворы, нават з высокай тэмпэратураю, нават страшна кульгаючы на хворую нагу. Пры невялікім росьце гэты сьвятар меў больш за 160 кіляграмаў вагі, але ніколі ня скардзіўся, толькі сьмяяўся і пакепліваў з сябе і... ішоў куды трэба. Вохкаў, стагнаў і ішоў. Апрача таго, ня памятаю, каб ён адмаўляў і ў асабістых просьбах. Трэба было бачыць, зь якой рашучасьцю, бывала, ішоў гэты магутнай паставы чалавек вырашаць асабістыя справы іншых людзей...

Калі, часам, я на яго крыўдаваў, дык гэтая крыўда мела заўсёды натуральную мяжу – я ведаў, што ён свой...

Ён быў лагодным і вясёлым чалавекам. Быў цудоўным апавядальнікам, ведаў безьліч гісторыяў і выпадкаў са сьвятарскага жыцьця. І любіў іх расказваць.

Шчасьлівы той, хто хоць раз тарапляў да яго на Велікодны абед. Мала хто ў такой дасканаласьці ведаў сакрэты беларускай сьвяточнай кухні. Цырыманіял разгавеньня ў выкананьні айца Яна сьмела маглі здымаць на відэа навукоўцы з Інстытуту этнаграфіі Акадэміі Навук.

Апошні раз мы бачыліся напрыканцы ліпеня сёлета. Айцец Ян быў заўсёды дасьціпны, плянаваў як налета адзначыць 25 год свайго сьвятарства, расказваў пра сцэнар дакумэнтальнага фільма аб ім, але, разам з тым, пад час усіх трох нашых сустрэчаў шматкроць паўтараў адну й тую ж думку пра магчымасьць не дажыць і да заўтрашняга дня, маўляў, усе мы пад Богам ходзім. Здаралася яму казаць такое і раней, але гэтак часта, як у гэтым ліпені – ніколі...

Я й ня ведаў, што абдымаемся мы апошні раз...

Даруй, ойча, што не пасьпеў яшчэ раз перапрасіць за свае правіны перад табой...

Вечная памяць!

**Сяргей Абламейка**

паставіўшы гістарычны подпіс у Віскулях, ня здолеў стаць Хросным Бацькам нацыі менавіта з-за свае інтэлігентнасьці і з-за агульнае якасьці інтэлігенцкіх арганізацыяў у палітыцы больш захапляцца словамі, а ня справамі.

Тым часам імкненьне пэўнай часткі насельніцтва (найперш сялянства), арыентаванага хоць на якую традыцыю й стабільнасьць, няхай сабе й савецкую, рэалізавалася ў прадстаўніку, якога інтэлігенцыя ўспрыняла як нонсэнс. Ён стаў Бацькам. Ня нацыі, праўда, а «вверенной территории». Прычым прыйшоў ён са сваёй сям'ёй чыста па-гангстэрску – з прастрэленага «мэрса». З гэтага часу палітычна кволая інтэлігэнцыя, што заснавала безьліч дробных партыяў, якія адразу пачалі перабягаць адна адной дарогу, але ня здолела стварыць пад гэтыя партыі моцнай электаральнай і фінансавай базы, трапіла ў залежнасьць ад малой, але нахабнай сям'і, што стала дзяржаўнай уладай. Гэтыя «новыя» не займаліся лішнімі пытаньнямі, а ведалі, што трэба рабіць неадкладна, – каваць грошы. Кволая тутэйшая мафія, хросныя бацькі якой каранаваліся ў Маскве, адразу адчула новыя правілы гульні. Нязгодныя з новымі правіламі мафіёзі, якія кантралявалі найбольш прыбытковыя сфэры (нафта, каляровыя мэталы і г.д.), жорстка замяняліся на міліцэйскія «крышы». Гэтым крокам беларускаму крыміналітэту, які па звычцы працягваў існаваць ва ўжо няіснай стратэгічнай прасторы няіснага СССР, была засьведчаная моц і воля новай улады, і, самае галоўнае, – тэрыторыя, на якую гэтая ўлада распаўсюджвалася і дзе ўлада расейскіх мафіёзі ўжо не была галоўнай. Шэраг загадкавых забойстваў тутэйшых аўтарытэтаў толькі пацьвярджае гэта. Далей дамова аб саюзе з Расеяй, выкапаны памежны слуп, адзіная мытная прастора і шалёныя грошы на кантрабандзе...

Нацыянальная інтэлігэнцыя, якая ў прынцыпе ня здольная стварыць дзеяздольную сям'ю, у дробных асяродках сваіх партыяў высьвятляла і высьвятляе да гэтай пары, хто зь іх лепшы. Апазыцыя, складзеная з інтэлігэнцыі, не была, ня ёсьць і ня будзе ўяўляць зь сябе сур'ёзнае сілы. У ейных арганізацыях парушаюцца асноўныя законы сям'і – не здаваць сваіх, трымаць дадзенае слова і адказваць за нявыкананае абяцаньне. У дачыненьнях паміж імі можна адвольна, у аднабаковым парадку мяняць правілы супольнай гульні, не баючыся панесьці ні маральных, ні фізычных выдаткаў. Гэта тычыцца ня толькі палітыч-ных, але, на жаль, і культурных, і бізнэсовых праектаў. Ёй застаецца бясконца высока лётаць у марах пра стварэньне ідэальнае Бацькаўшчыны.

Не дапамагаць сваім у нас лічыцца нармальным. Становішча ўладнай сям'і відавочна лепшае, але не такое ўпэўненае, як здаецца, таму што тут таксама былі парушаныя некаторыя з асноўных правілаў. Запалохваньне сваіх саюзьнікаў добрае толькі тады, калі яно не прымае татальнага маштабу. Бізун мусіць чаргавацца зь пернікам. Намэнклятура і вытворцы заўжды прагнуць і будуць прагнуць стабільнасьці, гэта іх рэжым існаваньня.

Зьмена ўладнай сям'і ва ўмовах няпэўнасьці, калі не падрыхтаваная сям'я, якая здольная з найменшымі выдаткамі пераняць уладу, не нясе ўсім астатнім сем'ям і грамдству ў цэлым нічога добрага. Пачынаецца вайна, хаос, «беспредел». У такой гонцы нацыянальная інтэлігенцыя, як палітычны гулец –носьбіт нацыянальнай ідэі – аўтсайдэр. Ва ўмовах крызісу, адсутнасьці моцнае сярэдняе клясы і буйнога капіталу, найбольш безбалесна ўладу сялянаў здольны зьмяніць выключна гегемон, на чале з сваёй «мафіяй», адной з самых магутных у сьвеце – прафсаюзамі. Задача нацыянальнай інтэлігэнцыі – стаць мазгамі гэтае сям'і, а не займацца ад пачатку пройгрышнымі ўласнымі праектамі. Гэта значыць, зрабіць тое, што зрабіла польская інтэлігенцыя, пачаўшы дапамагаць розумам і інтэлектам сваёй «Салідарнасьці».

Можа быць, мы здолеем спраўдзіць пажаданьне аднаго з герояў фільма Копалы, які падымаў тост «за мір паміж сем'ямі», разам з тым стварыўшы нацыянальную дзяржаву на чале зь беларускай нацыянальнай сям'ёй – беларускай «нацыянальнай мафіяй», і сваім, сапраўдным Хросным Бацькам, такім чынам сьцьвердзіўшы сваю спадчынную беларускую традыцыю ў чыстым выглядзе, без усялякіх камуністычна-сацыялістычных хібаў. Але дзеля гэтага трэба крытычна глядзець на рэчы і непахісна стаяць на сваёй традыцыйнай глебе.

# САМАЯ ТАННАЯ Ў СЬВЕЦЕ ГАРЭЛКА

*Працяг са старонкі 1*

Піць сталі болей і ўсе — гэта відавочна, але каб у тым назіралася нейкая паталёгія — ня бачна. Піць сталі, бадай, столькі, колькі п'юць ва ўсім цывілізаваным сьвеце. У гэтым сэнсе ўладам наўрад ці ўдасца спаіць беларускі народ. Іншая рэч, што такое з боку дзяржавы імкненьне акрэсьліваецца ўсё болей. Варта згадаць і нядаўнюю легалізацыю самагонаварэньня і тое, што са збожжа сёлетняга жніва найперш быў сфармафаны менавіта гарэлачны фонд.

Аднак, што з гэтага можа вынікнуць? Тое, што аўтарытарны рэжым трымаецца выключна на гарэлцы? Ёсьць яшчэ, вядома, рэгулярныя мізэрныя зарплаты, захаваныя працоўныя калектывы і мноства карных органаў. Ёсьць таксама і поўнае неразуменьне сэнсу гэткай палітыкі з боку электарату. Дай нам танную гарэлку — і гэтага дастаткова, каб мы не займаліся аналізам дзейнасьці прэзыдэнта. Ёсьць, нарэшце, і сапраўды рэальны падрыў эканомікі праз заніжаны кошт «стратэгічнага прадукту».

Яшчэ ў беларускім гарэлачным рэкордзе, як у люстэрку, мне ўбачыўся галоўны прынцып нармальнага сацыяльна-эканамічнага парадку — цалкам адваротны таму, які пануе сёньня ў Беларусі. Гэта збалянсаванасьць коштаў і даходаў. Я маю на ўвазе нават псыхалягічную збалянсаванасьць. У сёньняшняй Літве, напрыклад, пляшку гарэлкі менш за 5 даляраў не набудзеш. Затое даходаў звычайнага чалавека дастаткова, каб ніякі кошт не падаўся ўрэшце зусім фантастычным. Гэтаксама і паўсюль на Захадзе. Вы можаце за некалькі заробкаў набыць машыну і за некалькі гадоў сабраць на кватэру. Пры гэтым набыцьцё гарэлкі выглядае для вас рэальнай растратай. У Менску ж я ведаю людзей, якія, зарабляючы 30 даляраў у месяц, жывуць у кватэрах, кошт якіх перавышае 30 тысяч і п'юць гарэлку — не з ахвоты, а таму што яна і ў іхным разуменьні не каштуе нічога.

Яшчэ адна фатальная шкода гэтага перакосу адбіваецца на культуры. Я зноў жа ня маю на ўвазе духоўнасьць. Паколькі гарэлка ў нас традыцыйны цэнаўтваральны арыентыр, а звычайная кніга ва ўяўленьні публікі наўрад ці можа каштаваць больш за гарэлку, дык кошты на кнігі найчасьцей заніжаюцца (абы прадаваліся) ніжэй за ўсялякія шанцы выдаўца ня тое каб выплаціць ганарар аўтару, але й проста вярнуць укладзеныя грошы. Тое самае і з коштамі на тэатар ды іншую публічную культуру.

Як ні круці, а танная гарэлка ніякім чынам і ні ў якой галіне не спрые, а толькі падрывае — што эканоміку, што культуру, што псыхалягічны клімат у грамадзтве. Беларускі гарэлачны рэкорд сьвету аказваецца першынством наадварот. Мы не чэмпіёны, а антычэмпіёны. Мы тыя, што бягуць апошнімі. І наш антыпрыз яшчэ чакае нас у нашай будучыні.

**Сяргей Паўлоўскі**



# ПАЛЕНЬНЕ

*Працяг са старонкі 1*

Цягнік крануўся. За вакном пайшло, паехала, перабіраючы дошкі штыкетніку, адымаючы крокі абходчыка й рухомыя цені, што тускна ўспыхвалі й гасьлі... І ціхенька адчулася, як з набіраным ходам падспудным кодам падстукваюць колы. Далёка мігцелі агеньчыкі, перацінаныя ў цемры дрэвамі. Я глядзеў. Я спрабаваў учытацца ў гэты рух, зразумець. Краіна мая, што ж такое з табою творыцца, сярэднявечнае, тайнае; што гэта за гекатомба на плошчы, што за жар і вагні... А яно ўсё мінала перад вачыма і прападала – пустым наборам, калі чытаеш па дзесяць разоў і не разумееш зьместу. Я глядзеў у сваё двайстае, цьмянае адлюстраваньне ў глыбіні шкла, і думаў, што лепей, каб разабрацца, пачаць зь сябе.

***

Першае, што прыходзіць у галаву – гэта кнігі дома ў бацькоў. Тамоў тысячы й тысячы. У пакоях стаяла цэлая архітэктура – у шафах, на паліцах і проста на падваконьніках. Помню, нязручна было рабіць дамашнія заданьні, усё ўпіралася ў кнігі, напханыя пад сталом. Большая частка, наколькі я ведаў, дасталася нам ад бібліятэчнай радні.

Кнігі сьцяной стаялі ў залі. Заходзіш, і адразу зашклёная сьценка, галоўная вітрына ў доме. Напаказ усе каштоўнасьці: сэрвіз савецкага парцаляну, сямейныя тайны ў альбомах і дакумэнтах, шкатулка са срэбрам ды золатам, а таксама парфума –за дзьверцамі адчыняўся халаднаваты адэкалённы пах. І кнігі. Тамы ўсё больш цяжкія, пацямнелыя, поўныя зборы твораў. Вялікая Руская Літаратура. У некалькі паверхаў, так што верхніх без падстаўленага крэсла было не дастаць. О, гэта былі паважаныя кнігі. Пацёртыя, з умудранай сівізной у нітачках пераплёту, лісты ўсхваляваныя ад перагартаньня. Краем старонкі пера гусьцела ад сьлінёных пальцаў, і прасьвечвалі літаркі шрыфту, як кузуркі ў бурштыне.

Яно ўсё яшчэ ў руках у мяне трымціць, дрыжэньне шкла, зь якім адкрываліся кнігі, і тхне халадком парфумы.

Самым грамадным фаліянтам была «Москва». Яна ня ўлазіла старчма, і яе паклалі плітою. Такая велізарная й цяжкая, з такім цьвярдзенным рубам, што ёй можна было забіць. Гіганцкая, ілюстраваная; яе гулкія глянцавыя лісты раскрываліся, як дзьверы ў паркетныя залі. Я помню, ледзь трымаў яе на каленях. Развароты сполахамі. Крамлёўскія панарамы з дахаў сталінскіх шматпавярховак: глядзіш, галава кружыцца, і жах уявіць, як чалавек сарвецца адсюль, як ляціць у бездань, мільгае праз бясконцыя паверхі... Сталіца – я моцна ўдыхаў бліскучы, навошчаны пах.

Кожную кнігу, як адкапаны скарб, я зносіў у свой пакой, і там на некалькі дзён заміраў за чытаньнем. Тайны раманаў і прадмовы зь легендамі аўтарскіх біяграфіяў узбуджалі мяне неймаверна. Я нават сам пачынаў папісваць – такім гарачым струменьчыкам, калі ўжо няўцерп, і толькі б дабегчы да чыстай паперы. Тое было першае смутнае прадчуваньне, што мне *кнігамі жыць*.

Сядзіш да вечара, не ўключаючы сьвятла, учытваесься да зьмярканьня... Падымаеш вочы – і цемра. Пэўна, гэта з тых часоў я такі маўклівы. Я сутулюся. У мяне расплываецца зрок.

Кнігі – гэта было сьвятое. Іншага разу нам падбіралі бацькі. Цэлая цырымонія. Тата ўзважваў том на руцэ, сям і там раскрываў, звычайна трапна, трохі далістваў, з надломам разгладжваў далоньню – і пачынаў уголас. А калі ў нас што-небудзь пазычалі, кнігу ў чужыя рукі мама заўсёды загортвала. Найчасьцей у адрэз шпалераў, якімі кватэру абклейвалі, узорыстых, у тонкія кветачкі. Запамінальны звычай.

Нарэшце, настаўніца наша, русіца. Баюся, гэта яшчэ адна з тых прычынаў, якія так цяжка цяпер мне выдзіраць з крывёю. Яе голас, глыбокі, грудны, выношваў исконное «о». Яна чытала душэўна, духоўна – я верыў. І пасьля школы бадзяўся па вуліцах, спадзеючыся знайсьці ну хоць што-небудзь *ліцерскае*.

Перабірай, перабірай, корпайся ў генах і ранах, гэта табе зараз так пакутліва. Я ж памятаю, як ўсё чытался. Бунін. Абарвалася сэрца, і чуецца да гэтых пор – перагрук антонаўскіх яблыкаў, якія ссыпаюць на сырую зямлю дзесь пад Варонежам.

І падгрукваюць чыгуначныя колы, буйна, паддонна падгрукваюць.

Штосьці беларускае? Як падумаць, можа, і адшукаецца між падлеткавай драбязы нешта такое, накшталт пусьцяковай сьцяблінкі, якую няўцям пакусваеш. Хіба падзіцячаму буйны шрыфт тых беларускіх кніжак, што разпораз траплялася ў залі. Несур'ёзна. Хаця, можа быць, і прыемна. Было ж прыемна бацьку, адукаванаму журналісту, калі прыяжджалі ў вёску, прымаць між дзядзькоў і братоў тутэйшае гаварэньне. Трохі сарамлівае, ды сваё – гэта папахвала гародам і скотным дваром.

Бог яго ведае адкуль, зь якіх такіх каранёў, я сам пачаў размаўляць. Здаецца, гэта была проста сіла цяжару. Зямная цяга. Я падаў, як яблык.

Першыя курсы, унівэрсытэт. Зь нетраў, з пакойчыку ў прыгарадным панэльным доме, раптам – цэнтар гораду, самае сьвята. Пужаючая штурханіна з вышэйшымі розумамі, аб існаваньні якіх я й не падазраваў. Мы на дзіва хутка сышліся, і потым цэлай кампаніяй пасьля параў вывальвалі на праспэкт ці разам зьбіраліся на дэманстрацыю.

Нам ранілі грудзі белыя значкі, распаласаваныя чырваньню. Мы дасканала ведалі, хто вінаваты й што рабіць. Мы высакародна ўступаліся за кволенькую, вось-вось гатовую абамлець, беларушчынку. Па-рыцарску. Па-расейску.

І змагаліся. Я лазіў уночы па дахах, у цэнтральных кварталах, дзе старыя дамы і ўстановы з высакалобай стольлю. Я бачыў гэты горад з вышыні чалавечага палёту – баючыся сарвацца, па самым па краі. Дацяпер увушшу той крохкі крок на гарышчы, і вецер у верхавінах дрэваў варушыць ад жудасьці валасы, і ашалелае дыханьне ужо ўнізе, калі, задраўшы голаў, глядзіш, як трапечацца над крэпасьцю наша палотнішча.

Мы ўзломвалі браняваныя дзьверы з дапамогаю некалькіх фразаў. Нам адкрываліся й задуха кватэраў, і бясконцыя калідоры студэнцкіх інтэрнатаў, дзе можна было адбарабаніць касьцяшкі пальцаў і пасадзіць голас. І калі за вечар даставалася хаця б колькі цёпленькіх беларускіх слоўцаў, хаця б вінаватая ўсьмешка, пажадана дзявочая – мы былі шчасьлівыя, і казалі сабе, што ня ўсё яшчэ страчана.

Так мы пачыналі.

Гэтыя тыдні я ўспамінаў маіх хлопчыкаў у менскіх кадрах, якія ўжо абышлі паўсьвета. Увесь гэты час, штодня, іх паўтаралі зноў і зноў. Успыхвае, сьлепіць пражэктар, людзі, прыгнуўшыся, адбягаюць ад вокнаў Палацу; маладыя, амаль дзіцячыя бледныя твары мільгаюць ля самае камэры – і раптоўна за іхнымі сьпінамі, ля будынку, усё азарае выбух. Карцінка страсаецца, зь ёю сыпецца па нахільнай натоўп, рыне праз парк, паўз Дом афіцэраў... Цераз імгненьне дрэвы прашываюць іскрыстыя трасэры, камэра рэзка праваліцца ў цемру, і вынырне толькі раніцай на скрыжаваньні, дзе мерзьне патруль.

Той далёкай халоднай восеньню мы прападалі ў Траецкім, у Гістарычным клюбе. Увесь час распахнутыя дзьверы са мноствам шыльдачак, поўна народу. У захапляючым беспарадку згрудажаныя калекцыі цудаў. Шматвяковыя жалязякі, выкапаныя дзесьці пад Крэвам, уперамешку з манэтамі й ніткай рачных пярлінаў, з шыкоўным, памерам з абрус, слуцкім пасам – проста ў шуфлядзе, выламанай са стала. Навалам кіпы фотаархіву зь нядаўняй гісторыяй маніфэстацыяў. І тут жа, у залочанай раме, карціна зь нясьвіскага замку, аб якую не спатыкнуцца б. Усе гэтыя скарбы пастаянна перамяшчаліся, шарахаліся з рэхам; іх разгружалі; назаўтра зносілі й прывозілі штосьці яшчэ. Трэба было пасьпець перабраць, абглыдаць вачыма й са сьлінаю скаўтнуць уражаньне.

Што да кнігаў, дык гэта было для мяне страсеньнем. Я трымаў у руках ветхі, па лісьціках, сапраўднік скарынінскай Бібліі, якой паўтысячы гадоў, гартаў калясальныя слоўнікі, поўныя *выразумленных* словаў, і рассмакоўваў беларушчыну, выдадзеную за мяжой – з настолькі мяккімі знакамі, што язык сьцінаўся ад кісьлі.

Там ходырам хадзілі людзі, якіх мы яшчэ ў школе вывучалі, тыя, хто падымаў мнагатысячныя дэманстрацыі. Уразнабой шумелі важнейшыя перамовы й гаворкі пра тое, як учора *квасілі*. Столькі слыннага народу міналася ў дзьвярох і вузкім калідорчыку, столькі рукалася й адмыслова не падавала рукі; так заўзята палілі, аж дым курэў у дзясятак стваловў... Нам заставалася толькі цікаўна паблісквацъ вачыма. Ціхія дзядзькі, якія канцылярылі ў клюбе, рабілі на ўсіх гарбату – слабенькую, каб хапіла заваркі й кубкаў, і мы з удзячнасьцю прысёрбвалі гараванькае дзесь у кутку, на краёчку крэсла. Ня ведаю, у якіх піўных барах пачыналі калісьці Ірляндыя й Чэхія – Беларусь падымалася ў такіх вось прадымленых памяшканьнях, сярод людзкой сумятні й землянога жалезьзя, куды забрыдалі пагрэцца студэнты з вуліцы, і слабенькай гарбаты было на ўсіх.

Там я пазнаёміўся зь Белым – адным са страшнейшых маіх сяброў. Сёньня мы да яго яшчэ зойдзем.

Там слухаў Паўлея, вусатага, жылістага геоляга. Ён аб'езьдзіў ці ня ўсе беларускія сельсаветы з пробамі грунту, і з кожнай пробай у яго былі поўныя кішэні карыснае драбязы, мясцовых звычаяў ды гісторыяў. Ён прыпамінаў усё да вёсачкі, паказваў межы княстваў і шляхі вялікіх паходаў; грунтоўна, пераканаўча, рукамі зграбаў узгоркі й разраўноўваў лугавіны. Трэба было бачыць гэтыя чэпкія грубаватыя пальцы, быццам карэньне, толькі што вырванае зь зямлі, з брудам, які ўеўся ў скуру й пазногці. Гэта ён сказаў –памятаю, мы палілі на ганку Траецкага, ён стросваў попел... Ты чуў, яны ўсе за народ змагары, гаварыў Паўлей, гаркавата сплёўваючы, а вось пра гэтую *зямлю* ніхто не падумаў.

Там быў Валер Бондар, інтэлігентны, артыст, які валодаў ня менш як дванаццацю эўрапейскімі мовамі. Было адно задавальненьне назіраць, як вытанчана, па-птушынаму шчабеча ён, праз тэлефон зь якімсь партугальцам; як ганарыста, зь якім намаганьнем твару, прынароўлівае невымоўна-раманскі пранонс, ці шпрэхае, хуценька, з трафэйным прыдыханьнем. Дык вось, яго найвышэйшым шыкам было *загнуць* на людзях што-небудзь *па-расейску*

# НЕШЧАСЬЛІВЫ БІЛЕТ

**Зьміцер Бартосік**

Злавіў сябе нядаўна на думцы, што ўсё часьцей баісься задаваць даўно ня бачаным аднаклясьнікам самыя простыя пытаньні. Справы ў іх звычайна ідуць усё горш і безнадзейна, жонкі становяцца ўсё больш нэрвовымі, а дзеці – незразумелымі. А галоўная бяда – сыходзіць маладосьць. Адна радасьць – ёсьць з кім выпіць. Але пра што лепш зусім не пытаца, дык гэта пра агульных знаёмых. Тут ужо магчымыя самыя сумныя сюжэты. Хтосьці загінуў на фасадах, хтосьці назаўсёды згубіўся ў расейскіх даляглядах, кагосьці загубіла гарэлка праклятая. Усё радзей і радзей пачуеш нешта вясёлае.

Апошняя вестка, што дакацілася да мяне, зьбянтэжыла канчаткова. Па-сёньняшняму банальная, але нейкім чынам датычная да цябе. На паўночнай расейскай шахце загінулі людзі. Абыдзенны газэтны загаловак, у дэтэктыўных газэтах ёсьць сюжэты нашмат цікавейшыя. Але калі аднаго з палеглых ты ведаў зь дзяцінства, нават больш за тое – лічыліся да пэўнага моманту сябрамі, дык, калі й ня будзеш шукаць долі сваёй віны, дык міжволі памянеш.

Памятаю, як ён упершыню зьявіўся ў клясе. Насьцярожаны новым, гарадзкім асяродзьдзем. Сам ён разам з бацькамі пераехаў у Гомель з палескае вёскі. Памятаю, як нас расьсьмяшыла ягонае «шэсьцьдзесят шэсьць», калі ён называў нумар сваёй кватэры, і як яго папраўіла вучыцелька. Памятаю, як пасьля я зь яшчэ адным прыяцелем расейцам узялі яго пад своеасаблівую лінгвістычную апеку. Дапамагаючы ламаць і выкрыўляць ягоную грубую, простую гаворку пад нашыя лякалы. Памятаю, як мяне заўжды дзівіў інтэр'ер ягонае трохпакаёвае кватэры, які абмяжоўваўся тэлевізарам на падлозе ды параю ложкаў з бруднаю бялізнаю. Яшчэ я зайздросьціў колькасьці рублёў у ягонай кішэні, якія ён высмоктваў з маці. Памятаю, што мы даволі моцна сьсябраваліся й, вядома, як і ўсе гомельскія хлапцы, плянавалі разам паступаць у рыскую альбо калінінградзкую мараходку. Але сяброўства скончылася назаўжды яшчэ ў школе. І нагоду таго разрыву я ўжо не забуду, бадай, да сьмерці.

Мы ўтрох шпацыравалі па веснавым Гомелі. Расквіталі каштаны й сьпявалі вераб'і. Адзін з нас прапанаваў згуляць у лятарэю «Спринт» ды падзяліць выйгрыш на траіх. Пагадзіліся ўсе, але грошы, як заўжды, былі толькі ў яго. Купілі тры білеты. Мой і таго, хто прапанаваў гульню, былі пустымі. Ягоны быў з «Жигулями». Памятаю, ягоная рэакцыя не вылучалася эмацыйнасьцю. Білет з васьмю тысячамі рублёў быў пакладзены ў кішэню з той нядбайнасьцю, быццам гэта быў квіток у гомельскі цырк. Мы з тым, што прапанаваў гульню, хвіліны тры глядзелі на прыяцеля, з кожным новым імгненьнем усё больш адчуваючы тую прорву, што расла паміж намі. Мы з тым, хто ўсё гэта заварыў, так і засталіся саплівымі старшаклясьнікамі з грывеньнікам на марожанае. А перад намі быў гаспадар новенькага аўто, ці чамаданчыка, поўнага чырвонцаў, – гэта ўжо вырашаць было яму. Як бы нам, няўдачнікам, лёгка дыхалася, калі б ня гэтая дурацкая дамова падзяліць усё па-сяброўску...

Хвіліну маўчаньня перабіў наш наваяўлены мілянэр. Адным дарэчным словам, якое мяне працягвае заварожваць па сёньня. Ён сказаў: «Гуляем».

Стаяла вясна 84-га году. Апошняга разгульнага году вялікае п'янае краіны. Якая на цьвярозую галаву проста ня здолела існаваць. А тады! Тады любы падлетак мог узяць сабе на Дзень піянэра ці бутэльку «Белого» за 95 капеек, ці нават «Агдаму» за рубшэсьдзесят. Яшчэ ніхто ня ведаў сапраўднага сэнсу слова «траўка». Нам хапала той, што расла на маляўнічых сожскіх адкосах. І кайфу таксама хапала. Самы багаты выбар быў у віна-гарэлачных крамах. Асабіста я вельмі любіў разглядаць тыя вітрыны, марачы аб часе, калі нарэшце змагу ўсё гэта пакаштаваць. І тут такая падзея.

Смутна згадваецца геаграфія таго першага сур'ёзнага алкагольнага падарожжа. Пачалі, здаецца, з кубінскага рому, а пасьля праз «Карабах» выйшлі на чэскі лікёр і скончылі свой цудоўны вечар роднай «Белай вежаю». Усё гэта пілося адразу на вуліцах, дзе нас ніхто й ня думаў затрымліваць. Помніцца, як мы заляцаліся да ўдвая старэйшых за нас кабет, як я чціў памяць герояў, палеглых за маё сёньняшняе шчасьце, укленчыўшы перад вечным агнём, як пасьля хацеў заснуць вечным сном пад сеньню дрэваў румянцаўскага парку. Алкаголь весяліў і загаворваў тую малюсенькую крыўдачку-язвачку – «Ну чаму пашанцавала гэтаму гаўнюку?» За што я й палюбіў на ўсё жыцьцё гэтую радасную справу. Пра білет у той вечар не было сказана ні слова. Здаецца, ён нешта казаў пра Амэрыку.

Наш удачлівы сябра нечакана зьнік з нашага далягляду. А мы яго й не шукалі. Толькі недзе праз год у абласной газэце пра яго зьявіўся дурацкі артыкул пад назваю «Колькі вяровачцы ня віцца». Як высьветлілася, словы пра Амэрыку былі сказаныя ў свой час нездарма. За няпоўны год наш, як нам здавалася, недалёкі прыяцель свае восем тысяч ператварыў у дваццаць. Пры гэтым маючы справу выключна зь дзяржаваю. На чым і пагарэў. Ён лётаў у горад Львоў, дзе ў тамтэйшых камісіёнках закупляў электронныя гадзіньнікі, што ўваходзілі тады ў моду. Пасьля чаго здаваў іх у камісіёнкі гомельскія. І ўсё. Але на самым узьлёце ягонага гешэфту ў краіне пачалася барацьба са спэкуляцыяй. Яму далі тры гады «хіміі» з канфіскацыяй маёмасьці.

Я зайшоў у тую краму, зь якой 15 гадоў таму пачалася гэтая гісторыя. Узяў нейкую пладова-ядавітую дрэнь ды некалькімі глыткамі памянуў таго, каму ўжо ня трэба было зайздросьціць. Як жа ён урэшце прайграў, ня выканаўшы ўмовы той, на першы погляд, несур'ёзнае дамовы. Адзін з герояў гэтае гісторыі, той, які яе й заварыў, жыве цяпер у Амэрыцы. Другі піша песенькі на той мове, якую ўжывую ўпершыню пачуў менавіта ад трэцяга ўдзельніка. Якога ўжо няма на гэтым сьвеце. Чыё цела назаўсёды завалена чужою, халоднай зямлёй. Ці не абакралі мы нашага таварыша? Незаўважна для яго прысвоіўшы сабе ягоную мару ды ягоную мову? Ці, можа, уся справа ў фартуне, якая ўсьміхаецца толькі аднойчы й давярацца той усьмешцы небясьпечна для жыцьця.

– выключна аслупянелым, нечалавечым матам, ды так, што аж за вушамі трашчала й навокал са сьмеху надрывалася ўсё жывое.

Так, мы вучыліся насупраць Расеі. Мы ведалі, ад каго окаянная Москва пераняла абыкнавеннае аканьне, адкуль да яе прыходзілі кнігі й шрыфты. І хто потым з падзякай высаджваў дзьверы ў Эўропу, хто адкармліваў аграмадныя таленты на нашых скарбах і словах.

Чортава прыкрасьць. Чужы язык варушыўся ўва мне ад самага нараджэньня. Халопскае прыніжэньне – увесь час адчуваць гэты прысмак фальшу, гэты *цьвёрды знак* напрыканцы словаў... Ён застаецца, заўсёды пад языком, аддае нечым штучным і непатрэбным, яго не абломіш з канчаткаў. Так ня вынішчыць сьвятога мяккага знаку зь беларускага напісаньня. Зрэшты, вось табе й розьніца. Уся рэч у чым – ці ў нашай мяккасьці, ці то ў іхнай грубай цьвёрдасьці.

Мы былі ўпэўненыя: з нас хопіць. Мы крычалі гэта на мітынгах, мы засьвіствалі расейскую тэлевізію; зь нянавісьцю, зь мясам ірвалі каўнеры, ідзі-ка сюды, уёлавак, паўтары, што ты сказаў наконт нашае мовы, быдла!..

Толькі калі я прыходзіў дамоў, сумятня асядала ў глыбінях душы. Зьмяркалася. І станавілася зразумела, што папраўдзе магутнасьць Расеі – у гэтай цішыні, дзе пакояцца кнігі. Там было логва дракона.

І тады я рашыўся. З такою сілай варта сысьціся насьмерць. Супраць усіх і самога сябе – бойня, дастойная маладосьці. Вораг быў страшны, тым больш! Як яго перамагчы, герой ня меў ані малейшага ўяўленьня, але дух займала ад вышыні й непадымнасьці. Маладыя, дзёрзкія сілы дрыжэлі. Быць бітве.

Гэтая тайна і стала маім прызваньнем.

Я пачаў перакладаць сябе самога, размаўляючы ўслых; я практыкаваўся на любімых песьнях, быццам на жабках. Перапалохаў бацькоў сваім імгненным і неспасьціжным пераходам на родную мову. Патаемна, паўшэптам плянаваў сакрэтныя апэрацыі, штурмы й расправы – у чытальных залях, у прыціхлых студэнцкіх аўдыторыях. Спасьцігаў азы моўнае магіі й выкшталцона, з асаблівым цынізмам, зьдзекваўся з маладзенькіх прадаўшчыц у шапіках. Здавалася, на мяне падазрона глядзяць праходні. Я пасьпяваў і ў Траецкае, на начную расклейку ўлётак, і ранкам быў ва ўнівэры, рассоўваючы нелегальныя ксэры па партах. Я ледзь спаў, дыхаў аднной барацьбой і быў проста апоены тым, што такі да ўпору зараджаны й моцны.

Там, за валдайскімі даляглядамі, Імпэрыя ўжо павінна была адчуць маё небясьпечнае варушэньне... Устрывожыцца зь весткай аб новым нязьведаным ворагу, і раптам дрогнуць ад прадчуваньня ў самым сваім подлым сэрцы.

Прайшла праваднiца.

Добрая ў нас праваднiца. Кабета дамавітая, ёмістая, тыповая тутэйшая цётка. Вось мімаходзь падаткнула камусьці ў суседнім купэ прасьціну, белы падол з васількамі. Маўкліва, крыху сапучы, зьбірала квіткі й пасьцельныя грошы ў таўстаскурую кніжку, рупліва пасьліньвала пальцы. Праходзіць туды-сюды гэтак жа моўчкі, пасопваючы, як пячорны гном: рукі жменямі пры сабе. Зараз як забярэцца ў сваё купэ, а там па-добраму цесна, утульна. Каморка натопленая, у цёплых коўдрах, з клятчастым пледам, падушкай, зь няхітрымі скарбамі: печывам дамашняе выпечкі, бляшанкай бразыльскае кавы й гарэшкамі ў залацістых пакеціках. І прахалодныя, чысты сьнег, горы бялізны. І васільковыя ўзоры.

Вось табе жыцьцё. Чыгунка, абжыты вагон з падстукваньнем, пастаянна чужыя госьці – і каб усім было цёпла й цёмна спаць, каб усе былі задаволеныя. І нават прасьцінaчку падаткнуць.

Я ўвесь час чакаў, што яна нешта скажа. У гэтае цётачкі мусіў быць цудоўны народны акцэнт – але ад яе, з пачатку вагона, было чуваць толькі дзіньканьне шкла ў мэталёвай аправе, стрыманае шарканьне ды лясканьне засаўкі. Такія харошыя, кухонныя гукі пад спакойны пярэгрук колаў. Зрэшты, падумаў я, больш нічога ня трэба. Хацелася толькі ямчэй уладкавацца за сталом – так чакаеш, што зараз чаго-небудзь прынясуць. На хвілінку здалося: я дома.

Цягнік стаў. Так, на чым мы спыніліся.

... Наўрад ці можна было назваць домам той інтэрнацкі пакой з тумбачкай у ізгалоўі, дзе я пасяліўся, пачаўшы працаваць. Усяго й дамашняга тут было – кнігі ў вокладках са шпалераў. Некалькі кнігаў з бацькоўскае кватэры; маці загарнула іх мне, як рабіла заўсёды. Я ўзяў з сабой супраціўнікаў самых грозных, ня раз перачытаваных, на чыіх старонках стракацела ад знакаў увагі. І закладваў у іх самае каштоўнае, праезныя й грошы.

Яны й цяпер са мной, дамашнія кнігі. Гэта іх рабрыны ў чорнай торбе я пру зараз пяткамі. Не, даставаць ня будзем. Хай пачакаюць.

Тыя часы ў мяне ўспамінаць не прынята. Было нешта такое: паўпадвальная рэдакцыя; жалю варты, на паўтара тыдні, заробак; крышкі ў кішэні, ненадрукаваны артыкул у газэце за панядзелак (газэта камячылася, і ў вурну), сталоўка, супчык зь відам на палудзенны рэдзенькі сквэр... Толькі ў бібліятэцы я браў сабе ўдосталь і першага, і другога, і трэцяга. Было хвіліннае сьвята, калі ўдавалася падабраць у гарэцкіх радках што-небудзь гэткае, з хрумстам. Ці, скажам, знайсьці імклівае, у некалькі словаў, закляцьце супраць Булгакава. Але ўсё гэта месцамі, даволі бязладна ды выпадкова. Я паліў шмат таннае дрэні, я выдыхаўся: нэрвы, мой братка, нэрвы. Так хацелася чаго-небудзь разумнага, добрага. Вечнага. І я даставаў кнігі ва ўзорыстыя кветачкі, якія цягаў з сабою паўсюль, і пагружаўся ў чытаньне. Перачытваў з ныючай насалодай, з чорным па белым зайздрасьцю... Пасьля заставалася толькі маўчаць. Вялікае расейскае, яно было сумна й далёка, недасягальна далёка...

Мне зрабілася страшна. Не дастаю да дна. Быў гістэрычны жах не пакінуць нічога на гэтым сьвеце. Страшна выйсьці на чарговую дэманстрацыю – там хапалі, зьбівалі, здымалі на камэры, і з кожнай мянтоўскай машынай каля інтэрнату я спуджана, паўзь сьценачку, перабіраў, дзе ж апошні раз засьвяціўся. Між тым ня выйсьці было яшчэ страшней: што б сказалі тыя нямногія, хто мяне ведаў...

Вось так. Вось чаму, як толькі зьявілася магчымасьць, я рвануўся з усіх сваіх жылаў; напазычаўся, чырванеючы, гледзячы ў падлогу; вымаліў у бацькоў ці не астатнія капейкі... І выбраўся. Зьехаў. Я ехаў так, як і зараз, бязь лішняе шмоткі; адзінае, што было ў мяне – вось гэтыя кнігі. Па-мойму, я нават рыдаў у тамбуры. Але так было трэба. Тады я быў правы, нікуды не падзенесься. Я ехаў у Вільню.

Вільня, Вільня мая, чую цябе нават у гэтай цёмнай ночы. Так праходзіш дома цьмянымі калідорамі, ведаючы, дзе падасца з рыпам падлога, адным чуцьцём кранаеш знаёмыя выступы й паверхні, адным дотыкам – лёгкім, як пылок тынку, што застаецца на пальцах зь віленскіх сьценаў. Тут будынкі растуць зь зямлі разам з дрэвамі; тут, як крыніца, б'е ў вочы вышчарбленая цэгла; тут добра пячатаць крокі па бруку і разьбіраць старажытныя друкі.

*У Вільні вера.* Я назаўжды буду ўдзячны тым вечарам, якія праседжваў ва ўнушальнае цішыні, у сьвятле настольнае лямпы: падымаесься з-за стала пасьля колькіх гадзінаў, і ва ўсім целе –зацёклая ўласная важкасьць, цяжар беларушчыны й зробленай працы. Так прыемна потым спусьціцца на вуліцу, прайсьціся дварамі. Тут зьбіраесься з духам – такія храмы, такія кніжныя плошчы, рэчы цудовыя, запаветныя. Нідзе больш ня знойдзеш сапраўднай, дрымучае сілы такога роду.

І ўсё ж такі штосьці яшчэ. Усё-ткі іншага разу нецярпліва цярушыш пальцамі ў шчэпці, быццам самае маласьці не стае, самае солі, быццам вось толькі пераж агнацца... Таму што кнігі, прывезеныя з дому, кнігі ў шпалерах, зашмальцаваных да глянцу, усё роўна хавалі нешта значнейшае. У вечных радках, ужо стомленых ад паўтарэньня, дзіўным і сумным чынам двailася, траілася: машынны шум з тралейбусным гудам праспэкту, пах ліпнёвае квецені на паступленьне ва ўнівэрсытэт, начныя дахі ды страхі, юныя перажываньні, і, глыбей, руіны дашкольнага веку... Увесь пакінуты горад, у якім я пражыў жыцьцё.

Цягнік набліжаўся да Менску – неўпрыкмет, хадою гадзіньніка, зь нястомным падстукваньнем. Навакольле сьвяжэла. Я прыгледзеўся на хвіліну – сапраўды, за вакном азначалася ранішняе сьвячэньне, і пачынала няёмка шчыпаць бяссонныя вочы.

Што ж, наперадзе Менск, пагромлены ды халодны, куды страшнавата вярнуцца. Насамрэч, я ня быў там даўно, настолькі даўно, што ён мне ўжо сьніцца пачаў, і ўсё ў снах дрымотных, трывожных, калі бяжыш, не дабягаеш, калі шукаеш увесь час чагосьці – чаго, ты знаеш, знайсьці немагчыма. Горад шэрага каменю й тонкіх даждоў. Такому нельга даверыць свайго жыцьця, ды й сваёй краіны. Ён пужаў і прыцягваў мяне, як бездань.

Старонкі ўспаміналіся ў незьлічоных перачытаньнях, на ўсе галасы, прасьвечвала, калыхалася, усплывала тое, што часам нельга было й патлумачыць, і безыменныя ўздрыгваньні думкі згадвалі нейкую згубу. На жаль, такое не перакладаецца; такое толькі цытуюць. Урыўкі з жыцьця на памяць. Маё Выбранае. Я сядзеў над ім гадзінамі, з пачуцьцём шчымлівым і ашчадным, зь якім народы памінаюць Сярэднявечча.

Гэта былі тамы Сярэднявечча, майго асабістага. Здавалася, мне на ўвесь лёс ня дадзена нічога вышэйшага. Расейская клясыка стала пракляцьцем. Я губляўся, як гэта так, я ня ведаў, што й рабіць.

І вось тут пачынаецца тое, чаго ніхто не чакаў.

Ладна, я падняўся. Пайшлі, папалім.

Я выйшаў ў тамбур, прыстукнуўшы дзьвярыма. Аглушальна ляскала буфэрнае жалезьзе. Холадна. Сьцюжа за шклом здавалася проста нясьцерпнай. Зямля, скрозь голая, прасіла, як міласьціны, хаця б сьнегу: так было б цяплей. Страшна падумаць, што зараз робіцца ў горадзе. Выстуджаныя пад'езды, дамы захутваюцца, жалеза пячэ да крыві. Самае тое паліць кастры. І грэцца.

Плечы перасмыкнула. Насамрэч, куды там без агеньчыку. Пакартаваў у пальцах нерасьпячатаны пачак, люстраныя грані. У горле перасохла ад жаданьня й адчуваньня, што зараз зграшу-такі. Ах, я расцыраваў яго, зь пякучым хрумстам, як дастаў, адным дотыкам, цыгарэтку... Аж кончык языка з парком дыханьня млее... гэта ж трэба, два месяцы грыз асадкі.

Я стаяў і нарэшце паліў. Канчар цыгарэты ірдзеўся, успыхваў скрозь порысты попел. Такая радасьць. Калі прыглядзецца, жар пераменяўся цёмным і сьветлым, і нетаропка, паціху падбіраўся да вуснаў. Зь нязвычкі кружылася галава, было трохі блага. Я прыпамінаў, як танцоўна мнецца ў зубах цыгарэта, і дым хімічыць нешта ў мазгох.

Дык вось, я рашуча стрэліў попелам.

Калі пала ўлада, мне стала вядома толькі назаўтра з навінаў. Тэлевізар быў у кавярні, на першым паверсе дома, дзе я кватэраваў, трэба толькі сысьці па прыступках. Я заўсёды займаў там выгодны столік у кутку, ля вакна: там можна зусім па-хэмінгуэеўску заседжвацца за кавай... Цудоўныя хвіліны – я дыхнуў, выпусьціў пару. Дым разгортваўся прывідным пагрозным валам.

Тысячагаловыя дэманстрацыі, заводзкія страйкі, дзесьці разьбіты вайсковы грузавік – усё, што было да гэтага,

*Працяг на старонцы 8*

# Вэтэраны ў замежжы

## Кароткі нарыс гісторыі беларускай вайсковай вэтэранскай арганізацыі

Беларуская палітычная эміграцыя ў другой палове 1940-х гадоў разьбілася на некалькі плыняў, якія канкуравалі паміж сабою. Адну зь іх прадстаўляла Рада БНР, другую — Беларуская Цэнтральная Рада, «трэцюю сілу» ў розны час прадстаўлялі пачаргова некалькі арганізацыяў і партыяў.

Яшчэ на пачатку 50-х гадоў у Заходняй Нямеччыне і Англіі паўстаў «Беларускі Вызвольны Рух» — вайсковая вэтэранская арганізацыя. БВР з дапамогаю ангельскіх спэцслужбаў засылаў сваіх людзей у Беларусь і Польшчу. Адной з галоўных мэтаў Руху было аб'яднаньне ўсіх беларускіх вайскоўцаў-вэтэранаў другое сусьветнае вайны. Да таго часу беларускія жаўнеры й афіцэры былі расьцярушаныя ў «крывіцкіх» і «зарубежніцкіх» арганізацыях. Начальнік Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Руху палкоўнік Людвіг Галубовіч (Зарэчны) распачаў сваю «гульню», праводзячы ўласную палітыку. Але БЦР, з-пад фармальнага кантролю якой выйшаў Галубовіч-Зарэчны, і савецкія спэцслужбы здолелі разваліць арганізацыю. Праўда, пасьля гэтага БВР яшчэ працягваў існаваць аж да 80-х гадоў, але гэта былі ўжо малалікія, варожыя паміж сабою групы, якія ня мелі значнага ўплыву на эміграцкае асяродзьдзе.

Пасьля заняпаду БВР на ролю «трэцяй сілы» сталі прэтэндаваць сябры Беларускай Народнай Грамады на чале зь Сяргеем Хмарам. Пад уплывам яго групы былі й вэтэраны Беларускае Народнае Партызанкі, якія, у асноўным, жылі ў Паўднёвай Амерыцы. Хмара спрабаваў арганізаваць адзіны цэнтар беларускай эміграцыі, але беспасьпяхова. Вялікую ролю ў згуртаваньні хмараўскае групы адыграла газэта «Беларускі Голас», якую ён выдаваў у Таронта.

У 1958 годзе ў ЗША адбылася нарада былых «удзельнікаў збройнай вызвольнай барацьбы беларускага народу». Адным зь яе ініцыятараў быў вядомы вайсковы дзеяч БНР генэрал Мікола Дзямідаў, які сымпатызаваў групе Сяргея Хмары. Апошні таксама быў сярод ініцыятараў, бо не адкідаў ідэі «трэцяй сілы» ды спрабаваў залажыць калі не палітычную, дык вайсковую агульнабеларускую арганізацыю, вольную ад уплываў Рады БНР і БЦР. Нарада гэтая прыняла наступную пастанову:

***«Пастанова нарады ўдзельнікаў збройнай вызвольнай барацьбы беларускага народу, адбытай у дні 30 жніўня 1958 г. у ЗША***

*1. Нарада ўдзельнікаў Вызвальнай Збройнай Барацьбы Беларускага Народу, разважыўшы сяньняшнюю міжнародную сытуацыю, сьцьвярджае неабходнасьць згуртаваньня ўсіх беларускіх нацыянальных сілаў у вольным сьвеце дзеля пасьляховага адстойваньня справы вызваленьня і незалежнасьці Беларусі на міжнародным форуме, адбою і паралізаваньня расейскіх, польскіх і іншых «суседзкіх» імпэрыялістычных тэндэнцыяў, дзеючых сяньня праз гэтыя форум, у адносінах да земляў Беларускага Народу.*

*2. Нарада лічыць неабходным згуртаваць усіх удзельнікаў беларускай збройнай партызанскай барацьбы і паразуменьне ўсіх беларускіх вэтэранскіх групаў, стоючых на пазыцыі вызваленьня і незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*3. Нарада ўважае неабходным выкарыстаць баявы досьвед удзельнікаў беларускай партызанкі.*

*4. Нарада выказваецца супроць траты людзкіх баявых рэсурсаў праз выкарыстоўваньне іх не беларускімі дзейнікамі, выключна для сваіх мэтаў, нямаючых беспасярэдняй сувязі з вызваленьнем Беларусі і не кіраваных Беларускім Штабам.*

*Гэн. Мікола Дзямідаў, арганізатар Беларускіх Вайсковых часьцін у Горадні і акрузе.*

*Атаман С.Іскра, б. камандзер партызанскага аддзелу з 5-ай групы Войск БНР, дзеючай супроць палякоў у Зах. Беларусі.*

*кап. А.Баравы, Нач. Галоўн. Штабу Б.В.Р.*

*А.Вольны, удзельнік беларуск. адпорнага руху ў Надзьвіньні.*

*А.Яцэвіч, удзельнік антыбальшавіцкага белар. руху «Зялёных».*

*С.Сівак-Сьвітка, ахвіцэр 1-ай Брыгады Беларускае Самааховы».*

***(«Беларускі Голас» (Таронта), №49, верасень 1958 г.)***

Відавочна, што ўдзельнікі гэтай нарады спрабавалі ўтварыць аналяг таго БВРу, які актыўна дзеяў у 1950-54 гады. Праўда, для гэтага мелі яны вельмі мала сілаў. Найбольш яскрава характарызуе слабасьць «аргкамітэту» той факт, што пастанову падпісалі толькі чатыры чалавекі. Яшчэ два прозьвішчы — А.Баравога і С.Сівак-Сьвіткі — гэта псэўдонімы Яцэвіча-Змагара і Сіняка-Хмары (ён-жа «Іскра») адпаведна... Хмара прадстаўляў БНГрамаду, у якую ўваходзіла да сотні сяброў, якія жылі па ўсім сьвеце. Алесь Яцэвіч — БВР, які меў у той час прыкладна стольі ж актывістаў. Генэрал М.Дзямідаў выступаў як заслужаны вайсковы дзеяч, герой баявых чынаў БНР. Тым ня менш, менавіта на гэтай нарадзе быў утвораны Саюз былых удзельнікаў збройнай барацьбы за вызваленьне Беларусі, а, дакладней, яго арганізацыйнае ядро. Пасьля гэтага шэрагі Саюзу сталі паступова пашырацца.

Саюз аб'яднаў былых антыпольскіх партызанаў БНР, антысавецкіх партызанаў 20-х гадоў у БССР, паўстанцаў-случчакоў, антыгітлераўскіх партызанаў зь Беларускае Народнае Партызанкі, а таксама былых жаўнераў і афіцэраў Беларускае Самаахоvы і Краёвае Абароны. Аднак, трэба ўлічваць, што да Саюзу не далучыліся прыхільнікі Рады БНР і БЦР. Таму арганізацыя, нават з улікам сяброў Беларускага Вызвольнага Руху, была нешматлікая.

Найбольш лічныя аддзелы («постані») Саюзу арганізаваліся ў Паўднёвай Амэрыцы, дзе іх асноваю сталіся былыя ўдзельнікі БНПартызанкі. У Бразіліі дзейнічала «Постань Былых Удзельнікаў Барацьбы за Вызваленьне Беларусі імя ат. Нябабы». Напачатку вэтэранамі ў Паўднёвай Амэрыцы кіраваў атаман Якуб Харэўскі, а пасьля ягонай трагічнай сьмерці ў красавіку 1968-га — атаман Іван Перагуд. Аднак, да канца 80-х гадоў паўміралі амаль усе сябры Саюзу ў Паўдн. Амэрыцы. Дзейнасьць арганізацыі, якая й да гэтага зводзілася толькі да выданьня зваротаў, дэклярацыяў ды да згуртаваньня былых партызанаў (у Бразыліі праводзіліся іх вэтэранскія «зьлёты»), зусім замерла. Асабліва на гэта паўплывала сьмерць ат. Перагуда ў 1984 годзе.

Першым старшынём Саюзу быў ген. Дзямідаў. Але ён, праўдападобна, на пачатку 60-х адыйшоў ад грамадзкай дзейнасьці, бо меў ужо сталы ўзрост і дрэннае здароўе. Да таго ж, у 1964 г. на яго быў зроблены замах, пасьля чаго генэрал ужо ня змог ачуняць (яго моцна зьбілі й паламалі руку) і неўзабаве памёр.

На працягу 1962-64 гадоў, калі Саюз актыўна выдаваў адозвы, якія друкаваліся ў «Беларускім Голасе», дакумэнты падпісваліся палкоўнікам А.Баравым (Яцэвічам-Змагаром), атаманам С.Іскрам (Хмарам) і маёрам У.Адамёнкам. Прыводжу ніжэй адну з гэтых адозваў:

***«Да дваццатых угодкаў утварэньня Беларускага збройнага партызанскага руху супроць гітляроўскае акупацыі***

*Браты!*

*20 год таму назад паасобныя Беларускія партызанскія групы былі аб'яднаныя пад адным Галоўным Камандаваньнем Штабу Беларускіх, Народных, Партызанскіх Сілаў на чале з камандзерам — палкоўнікам І.Шаньком, ствараючы гэткім чынам зусім самадзельную Беларускую збройную сілу, якая мела ў прышласьці быць абаронцам Беларускага народу ад гордаў акупантаў, топячых у крыві Беларускую зямлю.*

*Здрадлівы вораг, пад маскай супольнага фронту барацьбы з гітляроўскім акупантам, патрапіў подступам замардаваць Галоўнага Камандзера палкоўніка Шанько, зьнішчыць камандзерскі актыў і загубіць большыню складу Беларускіх Партызанскіх Народных дружынаў, аднак памяць аб іх не загіне, як ня можна скрытазабойчымі кулямі зацерці факту, што Беларускі Партызанскі Народны рух апору ніколі ня быў савецкім, як прабуюць удаваць у сваёй падробленай гісторыі наёмнікі Масквы.*

*Адзначаючы гэтую гадавіну нашага Народнага Партызанскага зрыву супроць гітляроўскага акупанта, як перад тым супроць расейскага і польскага акупантаў, аб'ядналмася ў прырачэньні берагчы верна баявое змагарскае нашчадзтва Збройнага Народнага Руху Супраціву проціў акупантаў нашае Бацькаўшчыны і моцна стаяць за нашую Народную Праўду, за якую яны пралівалі сваю крой.*

*Слава палеглым за Бацькаўшчыну!*

*Няхай жыве Вольная, Незалежная, Народная Беларусь!*

*За Саюз Былых Удзельнікаў Збройнай Барацьбы за Вызваленьне Беларусі палк. А.Баравы, удзельнік антысавецкай Беларускай Партызанкі Зялёных; атам. С.Іскра, удзельнік антыпольскай Заходня-Беларускай партызанкі; маёр У.Адамёнак, удзельнік Беларускіх Збройных Сілаў 1943-45 гг.»*

***(«Беларускі Голас», №96, жнівень 1962 г.)***

Палкоўнік Баравы, які адначасна зьяўляўся старшынём Галоўнай Управы БВР і Саюзу Былых Удзельнікаў Збройнай Барацьбы за Вызваленьне Беларусі, пачаў адыходзіць ад Саюзу і канцэнтраваць сваю ўвагу і сілы выключна на БВР. З 1965 г. ён працягнуў у Клīўлендзе выданьне газэты «Незалежная Беларусь», якая да таго выходзіла ў Манчэстары. З 1968 г. ён ставіць свае подпісы выключна пад зваротамі і адозвамі Беларускага Вызвольнага Руху.

Пачынаючы з 70-х гадоў Саюз у ЗША і Канадзе не праяўляў, практычна, ніякай актыўнасьці. Найбольш дзейным быў аддзел Саюзу ў Паўднёвай Амэрыцы. На сёньняшні дзень арганізацыя ўжо ня дзейнічае, бо большасьць яе сяброў або паўміралі, або дасягнулі вельмі сталага веку.

Саюз Былых Удзельнікаў Збройнай Барацьбы за Вызваленьне Беларусі меў на мэце адыграць найперш прапагандысцкую ролю. З аднаго боку, у яе арганізатараў былі яшчэ нейкія ілюзіі наконт стварэньня адзінай вэтэранскай беларускай арганізацыі. З другога, у іх было жаданьне «напалохаць» камуністычныя ўлады БССР, зарганізаваўшы не былых паліцыянтаў або самаахоўцаў, а **беларускіх партызанаў** — сьведкаў чэкісцка-камуністычных злачынстваў супраць беларускага народу ў гады другое сусьветнае вайны. На жаль, Саюз ня здолеў набраць неабходнай сілы ды не распачаў актыўнай дзейнасьці, як гэта рабілі, напрыклад, былыя ваякі Украінскай Паўстанчай Арміі.

**Сяргей ЁРШ**



# НЕПАТРЭБНАЯ ВЕЖА

**Стаім мы перад будучыняй нашай... — пісаў Купала. А мы, атрымліваецца, раз за разам у пошуках нашага культурнага кантэксту становімся якраз перад мінуўшчынай. Мы гаворым пра рэсаветызацыю, пра вяртаньне Беларусі на дзесяць-дваццаць гадоў назад. Пры гэтым маса народу заклапочаная выключна сёньняшнімі сваімі праблемамі, а якія-кольвек футуралягічныя развагі ня толькі не вітаюцца, але й гучаць недарэчна. Наша будучыня паступова ператвараецца ў табу, бо ўсё грамадзтва нібы паводле нейкай унутранай дамоўленасьці вырашыла пра будучыню не казаць. Людзі сьведама выбралі ўладу, якая адкрыта паабяцала весьці краіну назад і за ўсе гэтыя гады ніколі, ні разу не падзялілася плянамі на будучыню.**

**Будучыні няма.**

**Прэзыдэнцкая ўлада выцягвае на сьвет божы ня толькі бээсэсэраўскую камандавую эканоміку і камуністычную сымболіку, але й маштабныя пляны колішніх першых сакратараў. Напрыклад, ідэю пабудовы пад Менскам атамнае электрастанцыі, якую ўвесь сьвет спазнае пад назваю Рудзенскай. Яшчэ адзін праект, які быў пахаваны за саветамі і рэанімаваны сёньня — гэта плян падубовы Менскае тэлевежы.**

**Ва ўсіх гэткіх плянах, хоць яны й абернутыя нібыта ў заўтрашні дзень, няма будучыні, бо няма сэнсу. Функцыянальна тэлевежа не патрэбная. Ну была б яна хоць бы самай высокай у сьвеце і праславіла Беларусь у кнізе рэкордаў Гінэса, але й гэтага няма. Нас у той кнізе «праслаўляюць» іншыя рэкорды...**

Карані жанру фантастыкі бяруць свой пачатак у палітычнай публіцыстыцы. Гэрбэрт Уэлс, пішучы сваю славутую «Машыну часу», задумляў яе як памфлет, крытыку сацыяльнае палітыкі ангельскай дзяржавы. Калі памятаеце, то ў той далёкай будучыні, куды патрапіў падарожнік у часе, дзьве расы людзей жылі сярод велізарных спарудаў і камунікацыяў, пра прызначэньне якіх яны ўжо не здагадваліся. Чытачы наступных пакаленьняў успрынялі гэты твор толькі як добрую літаратуру... У Беларусі сёньня ўсё наадварот: фантастычныя ўтопіі ператвараюцца ў дзяржаўную палітыку.

Для падняцьця тонусу свайго электарату рэжым рапартуе, што ўжо пачалося ці то будаўніцтва, ці то праектаваньне велізарнай тэлевежы ў сталіцы, на праспэкце Машэрава. Як кажуць, яна будзе ці другой, ці чацьвертай па вышыні ў сьвеце. Аж дух захоплівае...

У жніўні насамрэч адбылося паседжаньне ў Міністэрстве сувязі, на якім абмяркоўваліся праекты тае самае тэлевежы, якія былі раней ухваленыя. Спыніліся на разглядзе трох: Усходнекітайскага інстытуту праектаваньня і дызайну, нямецкай фірмы «Вайс унд Фрайтаг» і расейска-беларускага кансорцыюму.

Ідэя завяршыць ансамбаль праспэкту Машэрава зусім слушная і зусім ня новая. Пра патрэбу тэлевежы ў Менску гаварылі яшчэ напрыканцы 70-х. Нават існавалі эскізныя красьлюнкі ды макеты. Але ў БССР гэткіх грошай не знайшлося, а зараз хапае й сёньняшняе тэлемачты. Што да ансамблю магістралі імя Машэрава, то ён сапраўды без належнае дамінанты застаўся нібы парэзаны напалам: да і пасьля вуліцы Заслаўскай. Не ўратавала сытуацыю нават цётка з трубамі пад бэтоннай стэлаю – помнік аднае з гадавінаў апошняе вайны. Наадварот, дальняя палова праспэкту стала яшчэ больш самастойнаю...

Мне з новых праектаў тэлевежы найбольш спадабаўся расейска-беларускі варыянт. Ён успрымаецца як алюзія на спадчыну Татліна і Лісіцкага. Праект сярод астатніх вылучаецца хоць нейкай увагаю да традыцыяў, а менавіта да віцебскага авангарду мяжы 10-х і 20-х гадоў. Нібыта вялікая спружына, лопаючыся, імкліва ўвінчваецца ў неба. Гэтая канструкцыя і магла б упрыгожыць горад, асабліва ўначы, далёка сыплючы промнямі па-над менскімі разлогамі. Праўда, сьцьвярджаюць, што гэты праект больш падобны да гіганцкага штопару, а таму сымболіка можа атрымацца занадта канкрэтнаю...

Ці варта будаваць тэлевежу? Праектная вышыня яе вагаецца паміж 480 і 420 мэтрамі. Кошт аднаго мэтру, да прыкладу, віленскай тэлевежы – каля 10 тысячаў даляраў. Ня цяжка падлічыць, колькі будзе каштаваць вежа, запраектаваная ў Менску. Дадайце, што яе эксплуатацыя таксама запатрабуе бясконцага фінансаваньня. Тым часам як у сьвеце порстка разьвіваецца спадарожнікавае й кабэльнае тэлебачаньне, гэткія растраты для Беларусі не апраўданыя. Тым больш, што радыюс дзеяньня трансьляцыі з гэткай вежы будзе толькі каля 80-ці кілямэтраў. Таму рэальнай патрэбы ў ёй няма. Ці не прасьцей за нашмат меншую суму наторкаць рэтрансьлятараў, безь якіх усё адно не абысьціся, альбо заняцца спадарожнікавым тэлебачаньнем?

Дык вось не! Калі ўжо аднаўляць БССР – дык у поўным аб'ёме, разам з утопіямі! Хай там у Літве зачыняюць АЭС, а мы –пабудуем. Хай ствараюцца новыя тэлетэхналёгіі – нам дарагія ўсё ж нашыя мары 20-цігадовае даўніны. І вакзал найбуйнейшы ў СССР дабудуем! І сьвінарнікі ў восем паверхаў з кармапровадамі! Гэткім чынам Беларусь, рыхтык паводле сюжэту фантаста Ўэлса адправілася ў падарожжа па часе, праўда, не ў галавакружную будучыню, а на чвэрць стагодзьдзя назад. Ня толькі ідэйна, з чырвонымі зоркамі і кумачом, але й матэрыяльна, з архітэктураю і з тэхналёгіямі.

Хутчэй за ўсё рэанімацыя савецкіх утопіяў – гэта толькі блеф рэжыму, імітацыя бурапеннае будаўнічае дзейнасьці і міжнародных сувязяў. Хай кітайцы зь немцамі пазаймаюцца, падключацца... А калі ня блеф – дык нашыя дзеці будуць дзівіцца на калясальную спаруду, другую ці чацьвертую ў сьвеце, і, як людзі будучыні з раману фантаста Ўэлса, ня здолеюць растлумачыць, навошта яна збудаваная.

**Сяргей Харэўскі**



*«Горад будучыні». Праект цэнтра Менску, 1972 год.*

# ПАЛЕНЬНЕ

*Працяг са старонкі 5*

набывала цяпер свой ракавы сэнс. Падумаць толькі, усё жыцьцё лічыў – о, як далёка нам яшчэ... Атрымай. Крах поўны. Рванула так, што ашмёткі яшчэ доўга лукалі. Па ўсёй Беларусі зьбіралі нейкі грандыёзны Дэмакратычны кангрэс, апячатвалі архівы і ўламваліся ў кватэры рэжыму з пагромамі, вобыскамі й кайданкамі. А ўва мне ўсё гайдалася й ляскала, што твой тамбур: так кудысьці туды хацелася з грукатам дацца, тараніць на стыку й стрэсьціся ад сутыкненьня.

Супакойся. Удыхні глыбей. Да самага дна, каб лёгкія тлелі...

Тэлевізійныя кадры глядзеліся з халоднай грэблівасьцю. Вулічны патруль, хлопец-аўтаматчык на пару зь міліцыянтам, пацепвалі на вятры плячыма – яны там таксама мёрзьлі. Пройма высаджанай вітрыны, з паваленым манэкенам сярод асколкаў бітага шкла. Купка падлеткаў, якія зьбіралі страляныя гільзы; між іх, у пыле, недаўменна гулялі галубы.

Я не паехаў туды. Навошта. У многіх маіх сяброў, пэўна аж заблішчэла ў вачох, але мне ад гэтай краіны больш не было патрэбна нічога. Усё гэта мы ўжо бачылі. Пустое.

Дымныя цені на сьценах тамбура плыўна разгортваліся, разьвінаючы штосьці з прывідный тайнаў, таялі й павольна зьнікалі.

Паказвалі часовага прэм'ера: ён гаварыў, наколькі я чуў скрозь пераклад, пра падатковыя ільготы, паток грузавога транзыту й замежныя крэдыты. Слушна казаў, але раздражняла, рэзала вока, што ён цярэбіць у пальцах запалкавы карабок – на лякаваным міністэрскім стале, з прэс-пап'е, залочанымі асадкамі й спэцсувязьзю. Быццам стараецца схаваць, як дрыжаць рукі. Хацелася, каб ён трымаўся больш упэўнена, а замест гэтага мільгалі дурацкія капеечныя запалкі... Яны аніяк ня выйдуць з галавы.

Між тым штодня зьбіраліся мітынгі – у асноўным інтэлігенцыя, студэнты; ня так шмат, але сьцягі лунаі й крык стаяў даволі рашучы. Я нават пабачыў сяго-таго з нашых. Гэта было ўжо цяплей, цяплей.

Агеньчык успыхваў. Трэба мацней зацягвацца, тады ён ярчэйшы, патрэсквае, зырыцца, і сапраўды робіцца трошкі цяплей. Паркі дым клубіўся й затуманьваў шкло. Зараз заінее.

Калі Расея адключыла тэлеканалы, стала не па сабе. Справы сур'ёзныя. На наступны дзень пачалі перакрываць газ. Такія трубы не заблякуеш адразу – выбухне ад страшэннага ціску. Аднойчы я чуў, як яны шыпяць, перакрываныя. Так здыхаюць страшыдлы. Уявіць сабе, як усё разам, на тысячы кілямэтраў, пагружаецца ў цемру, гасьне, як у сьцюдзёную позьнюю восень па ўсёй краіне астываюць кацельныя, пліты й батарэі ў кватэрах – тут было ад чаго здрыгануцца.

Мне ніколі ў жыцьці не працавалася гэтак горача, як у тыя дні. У нейкім палаючым натхненьні я парадчыў і перачытваў усе віленскія публікацыі, рукапісы й падшыўкі. Быццам рыхтаваўся да старту. Засякаў час і ледзь пасьпяваў дачытаць, дапісаць, даесьці –зьбягаў у кавярню, да тэлевізару.

Нарэшце, сёньня, – я закашляўся ад дыму, не прадыхнуць, –зрэшты, гэта ўжо ўчора, бо цяпер у мяне на гадзіньніку заўтра... Карацей, у вечаровых навінах камэнтатарка захлыналася вусьцішшу, яе голас дрыжэў. Тое, што тварылася на экране, кінула мяне ў жар.

Яркі жар, чалавечы роў і барабанны рокат за кадрам. Гулка гахаюць стрэлы – здаецца, у паветра. І кнігі. На плошчы паляць расейскія кнігі. Рвуць і мечуць у велізарны касьцёр. Тэатар опэры й балета. Натоўп народу. У людзях злосна, барвова ўспыхваюць водсьветы. Усё трашчыць і крычыць у барабаннай жарсьці – і рукі, растапыраныя чырвоныя рукі, што прагна цягнуцца да вагню...

Ччорт, я ледзь не апаліў сабе пальцаў. Недапалак ужо датляваў, наапошак шызавата, злавесна курыўся. Чакай, яшчэ пару дымоў. Лёгкія падымаліся томна, у прадчуваньні. Здавалася, я вось-вось успомню, уразумею. Дзе ж тут ісьціна, дзеля чаго, дзеля каго гэта ўсё робіцца...

Зайшла правадніца. Пачала, прысеўшы, нешта корпацца ў куце й міжволі апраўляла форменную спадніцу. Такім мілым, прывабным жаночым рухам, харошая мая, ты б знала.

Іскарка, мігні мне. Усё, гатова. Недапалак я вазьму з сабой. Такія рэчы трэба захоўваць, як гільзы.

Мы ўжо пад'яжджалі. Паўночы ад Вільні да Менску, так каротка. Не пасьпяваеш усяго перадумаць. Застукалі дзьверы. Пачыналі хадзіць у прыбіральню – потым ужо будзе позна. За вакном мільгалі прыгарады.

Колы адстуквалі прэч слупы, склады й штабэлі шпалаў, прыглушана шугалі пад цені мастоў. Вочы адмахвалі, быццам хутка чыталі радкі – зьлева направа, зьлева направа. Наперадзе, у сьвітаньні, падымаліся капітолії горада й калясальныя коміны. Мой Менск. Горад, якому так холадна безь мяне. Горад, дзе нашы сьцягі па-над дахамі, дзе навіны ўжо колькі тыдняў толькі на мітынгах. Дзе ўвечары людзі ідуць да Опэрнай плошчы – пагрэцца ля аграмадных вогнішчаў, у якіх гараць кнігі.

***

Я выйшаў у тлум пэрону, ва ўсеагульную таўхатню, і ўзважыў на руцэ час.

Вакзальны шум. Пад гулкім купалам залі шумела шматлюднае варушэньне. Шырокае шарканьне, гоман, тоненькі цік абцасіку –увушшу ўсё стушоўвалася ў завароханы хор. Кожны горад гучыць па-свойму, вось у чым сэнс. У Горадні тон афіцыйны й сухі, некалькі цырымонны; у Магілеве – базарны ды едкі, з лушчаньнем семак; і велічны, з таемным шкляным пазвоньваньнем, у Віцебску. Я заўсёды, калі прыяжджаю, дазваляю сабе такую маленечкую хвілінку. Прыслухацца.

Тут стаяў усё той жа вусьцішны шолах з характэрным прышэптваньнем, невыразны й клапатлівы, як тутэйшы выгавар, памяшаньне расейскай з трасянкай. І тое ж няпэўнае, прасторнае рэха, тыпова менскае, можа быць, крыху больш пасьпешлівае, чым паўтары гады таму.

Было людна і брудна. Масква адпраўляецца, паўтаралі ў залі гулка й мэтадычна, Масква адпраўляецца. У Маскву, у Маскву, народ натоўпамі перабіраўся да дальніх вагонаў.

Што ж, а мы ня будзем сьпяшацца. Сёньня, пакуль ёсьць магчымасьць, трэба рабіць усё нетаропка, важка, з усьведамленьнем значнасьці. З расстаноўкаю і пачуцьцём. Пачынаецца знакаміты дзень, мой дзень, я сэрцам чую, і гэта шмат што значыць.

Я крочыў праз рух чамаданаў, міжволі выглядаючы каго-небудзь са знаёмых, і нечакана, у шкляных дзьвярох на выхадзе, ледзь не сутыкнуўся з самім сабой.

На Прывакзальнай плошчы было сьцюдзёна. Пяшчотныя дрыжыкі млелі ў яшчэ цёплым целе: я нема зяхнуў і захутаўся. Ну вось, горад Менск перада мной. Нейкі паранішняму ўбогі, нязетлівы й пешаходны. Так цёмна тут апраналіся, я ўжо адвык.

Настрой трывожны. Нешта скрозь нездаровае было ў абшарпаных сьценах і беспарадчным руху людзей. Збройны патруль насьцярожана паглядваў у твары прыежджых. Нейкі дзядзька натужна цягнуў на санках багаж, палозьзе са скрыгатам ўскрыквала, сьцірала асфальт да самых мурашак па скуры. Віск жалезьзя браў за жывое.

Я глядзеў са страхавітым уражаньнем. Быццам бачыў упершыню гіганцкія вежы сталінскай пабудовы, з чыгунным гербам на адной і гадзіньнікам, што даўно спыніўся, на іншай. Цераз дарогу зеўраў разгромлены шапік – каробка елачных цацак, грохнутая аб падлогу. Зроч-





# Купіць Вільню...

Пару месяцаў таму на Вільню зноў пусьцілі некалі адменены дызэльны цягнік. Таму ў мяне не было праблемы з выбарам, чым ехаць. У торбу я паклаў толькі адну кніжку: «Рунь» Максіма Гарэцкага. Рэпрынт таго, 14-га году выданьня, з друкарні пана Марціна Кухты, адкуль у той жа час выйшла яшчэ адна кніжка, толькі паэтычная. Аднолькавыя фарматам, някідкія аздабленьнем, яшчэ «неўнармаваныя» паводле мовы, яны, як у час свайго зьяўленьня з-пад прэсу, так і сёньня застаюцца лепшымі дакумэнтамі даросласьці нацыі.

За ўвесь шлях да мяжы я адолеў толькі адно невялічкае апавяданьне, якое й дало назву ўсяму зборніку. Герою апавяданьня «запала неяк у галаву, што, вось, пракорі слова у нас знаходзюцца, а пракораў-эканамістаў няма. Ён хацеў так. Сабраць у сьвеці ў адных сваіх руках столькі грошы, каб, напрыклад... купіць усю Вільню, і потым з гэтымі грашамі рабіць эканаміцкае адраджэньне Беларусі. Гэта, у пасьледку была яго манія, і некаторые лічылі яго блізка што ненармальным». Далібог, можна забыцца, што гэта рэпрынтнае выданьне. І чым далей я знаёміўся з героем апавяданьня, тым больш знаходзіў агульных рысаў паміж ім колішнім і намі сёньняшнімі. Хто з нас не спрабаваў «словам адраджаць чалавека ў беларусе»? Ці не задумваўся ў роспачы аб самагубстве? Ці не плянаваў беззваротна ад'ехаць чым далей, тым лепей?

Але прачытаўшы наступны абзац, я шчыра парадваўся за сябе. Цытую: «Па праўдзі, ну чаго ж я буду жыць далей?.. каб толькі ведаў што будзіць цераз 50 гадоў з беларускай справай...» Канец цытаты. Лічба «50» мне падаецца тут зусім недарэмнаю. Гэта той далягляд, за які меў рэальны шанец зазірнуць, інакш кажучы, дажыць, сам пісьменьнік. Напэўна з завірухі чатырнаццатага году паўвекавая дыстанцыя яму ўяўлялася неверагодна вялікаю для спраўджваньня самых фантастычных сцэнараў. І наўрад ці ён мог дапусьціць той сюжэт, які вядомы мне. Савецкая Беларусь 64-га году, дзе, здаецца, у беларускай справы шанцаў на жыцьцё амаль няма. І якою нязначнаю й шэраю здаецца лічба «64», калі ў тваім досьведзе ўжо ёсьць «98». І наступныя паўстагодзьдзі здаюцца нават завялікім авансам для адраджэньня, не, ужо не чалавека у беларусе, а беларуса ў чалавеку. І што цешыць, у чалавеку канкрэтным. Ці то ў суседцы па пляцоўцы, ці то ў неабцяжараным нацыяналізмам прыяцелі.

Вось ён у Гарэцкага: «Я заступаюся за брата-мужыка, а ён жэ –не сымпатычны, ён жэ мяне крыўдзіў болей, чым хто». Але што дае сёньня сьмеласьці спакойна глядзець ва ўласнае «заўтра», дык гэта тое, што беларус ёсьць. І хуткасьць ягонага адраджэньня цалкам адэкватная менавіта твайму ўменьню й жаданьню даказаць яму, што ён жа – сымпатычны. Таму мой далёкі 2048-мы год не выклікае ў маёй душы страху, а тым больш думак аб цыяністым каліі. Вось толькі ня хоча нікуды зьнікаць туга па тым часе, калі мы ня марылі дзесяцігодьдзямі. Можа, кепска мы чыталі нашых клясыкаў? «Самагубства ня выйшла. Ды й чаго паміраць, калі я жыў толькі у думках. І толькі у думках прыйшоў да самагубства!» Ці не пра нас гэта колішніх, якія толькі ў думках прыходзілі да Беларусі, і толькі зараз нарэшце прыходзім да яе намацвальнай?

Як гэта ні банальна гучыць, а ўдача беларускае справы закладзеная ў нашым жаданьні дажыць. Да чаго дажыць, гэта ўжо справа кожнага. Я вось дажыў да моманту, калі ў вокнах майго вагону паплыла Вільня. Нязьменная як канстанта – што сто гадоў таму, што праз сто наперад. Ці ня тут знаходзіцца ключ да ўдачы. У тым імкненьні героя аповеду «купіць яе ўсю».

**Зьміцер Бартосік**



ныя рэчы. Трэба было б падабраць нешта такое на памяць: можа, вось той замерлы на вежы час, ці то сутуласьць людзкую, ці пранозна віскліВую ноту, пакінутую санкамі на асфальце...

Зьбярыся. Я ўсхрапнуў усю сьлізь з насаглоткі й рашуча схаркнуў. Табе трэба перажыць усё, што будзе сёньня.

Зараз да Белага. Зрэшты, сапраўднае яго прозьвішча Белых, але ў нас яго называлі Белым. Некаторыя нават дасьціпнічалі –Беленькі, бо сам ён быў да апошняе валасінкі чорненькі, з такімі трагічнымі, ці не жыдоўскімі, ценямі ў бледным, абвостраным твары. Заўжды нейкі хваравіты, ён увесь час пакашліваў ці, зьняўшы акуляры, балесна прымружваў вочы, і за беларушчыну змагаўся з такім выразам, зь якім скаўтваюць празь сілу. Было ў гэтым штосьці заразнае, і я іншым разам пачынаў гэтак жа, балеючы за беларускае, хрыпавата пакашліваць.

Ён ледзь пазнаў мяне ўчора па тэлефоне:

– У-у, сябра мой літоўскі, – гукнуў, мне сьпярша так падалося, расчаравана, – прыяжджай, канечне. Тут огого што творыцца.

Я перайшоў плошчу. На скрыжаваньні крыху памарудзіў, якім шляхам пайсьці далей – і раптам, разьдзімаючы ноздры, застыў: пахне хлебам. Гарачым хлебам, ммм, і як пахне! Проста пасярод вуліцы –бывае ж такое – быццам з самай духоўкі пякарні. Хочацца дыхаць яшчэ й яшчэ, і выдыхаеш шчасьлівым стогнам. Канечне, вось гэтая крама, на рагу, мы студэнтамі бегалі туды паміж параў па смажні. Уяві, ты прыехаў сюды праз паўтары гады, у горад халодны й галодны, ты проста з вакзалу, ня еў, і самае лепшае, што толькі можна прыдумаць – гэта родны пах гарачага хлеба.

Я з задавальненьнем зайшоў у надыханае, па-чалавечы жылое цяпло. Гастраном запушчаны, савецкі, знаёмы зь дзяцінства: тут з хлебным духам мяшаўся настойлівы пах бакалеі, перны й сухі, прэсная сырасьць малочнага, і, само сабой, несла з рыбнага. І так дружна, бадзёра кішэў і соваўся ранішні люд, так будзённа пераклікаліся прадаўшчыцы, дзяўчаты ў белым, што мяне размарыла шчырая ўсьмешка, і стала ясна, да сьлёзаў ясна: мы абавязкова вытрымаем, няма ніякіх сумневаў, мы будзем жыць, і з нашай краінай усё будзе добра.

Куплю перакусіць. Ды яшчэ якога гасьцінцу для Белага. У яго, здаецца, малы. Прыткнуўся ў чаргу, дастаў грошы. Калі я зьяжджаў, гэтая сума яшчэ нешта значыла. Зараз адно каб хапіла. Старыя добрыя грошы, даражэнькія мае, як жа знаёма яны шамацяць у руках – шурпатыя, цёплыя, шчэ жывыя. Кажуць, хутка будуць мяняць. Шкада.

Вось дзьвюхсотачка – гэткія, пэўна, ужо не прымаюць. Шэравата-блакітная, з Прывакзальнай плошчай і маленькімі чалавечкамі. Такая ж бруднаватая, непрыбраная, як і пляц.

Пяцёрка, Траецкае, пацёрты румянец. Вось табе твая маладосьць –дахі, выцьвілая зеляніна, ажурнае сонечнае сьвятло, усё ў мглістым ружовым тумане. Дзесьці там Гістарычны клюб. Пяць тысячаў пацёртых успамінаў.

Нарэшце, самая галоўная паперчына, самая храбусткая, Опэрны. Сто. Халаднаваты Опэрны, змрочны, як храм друідаў, з вадзянымі знакамі ў глыбіні – глянь, абарочваецца рытуальнымі танцамі. Сёньня ўвечары трэба быць там. Народу сто тысячаў. Будзе відовішча не для нэрвовых.

Паўгорада ў кішэні, толькі падумаць. Маё паўцарства. Мінск, Менск – ці перайменавалі? Мінск, Менск, як прыемна мнецца ў руках, перамінаецца неразьменная памяць.

Я зноў быў на гэтых вуліцах, у сваіх унівэрсытэцкіх кварталах. Усё захавалася. Я чакаў на забытых сьветлафорах і са смутным захапленьнем аглядаў будынкі, велічныя й старыя: здавалася, яны аблупіліся й патрэскаліся менавіта за гэты час.

На плошчы Незалежнасьці прадавалі вугаль. Было мнагалюдна, але нешматслоўна. Засяроджаныя дзядзькі калгаснага выгляду ў шызаватых ватоўках, з пылам, пыхам і бляскам, з шарханьнем на ўсю плошчу разграбаліся шуфлямі. Вугаль бралі вёдрамі, як бульбу, торфабрыкет па штуках, выбіраючы цалейшыя. Стараючыся не запэцкацца, я прабраўся паўз чорныя адвалы, між гружаных калясак, скрыняў і мяшкоў.

Праспэкт ішоў пешшу. Праезныя машыны зрэдку падкрэсьлівалі нясьпешлівы пешы рух. Я крочыў павольна, як у халоднай карціннай галерэі, кшталтуючы рухі, абмінаючы асьцярожна сустрэчных. Я хутаўся ў куртку і, быццам кішэнную дробязь, цацаў кожную падабраную знаходку. Мілае дзяўчо, што ўтнулася носам у пухнаты каўнер, усё роўна каленкі голыя. Цяжкія дзьверы кнігарні, куды я заўсёды заходзіў набыць што-нішто патаньней; яны зачыняліся з буханьнем і ледзяным дрыжэньнем. Загнуты дарожны знак, кавалак бляхі, што пасіроцку матляўся, трымцеў на вятры па-над праспэктам, і якраз за ім віднеўся той самы дах. Бясцэнныя мясьціны. Ты ўспомні. Я дыхаў, як на шкло – усё на міг ажывала зь лёгкім воблачкам пары... Гэта здавалася мне настолькі пранізьлівым і значным, што я часьцяком затрымліваўся й падоўгу глядзеўся ў вітрыны.

•••

Я зайшоў; мы абняліся.

– А халодна, – сказаў Белы, паціскаючы маю зьнямелую ад сьцюжы руку, і гэтага хрыплаватага слоўца хапіла, каб пазнаць яго.

Пальцы ня гнуліся, было няёмка нават расшпільвацца. Я моўчкі корпаўся са шнуркамі, праклінаючы халады й самім жа насьмерць зацягнуты вузел, а ён стаяў нада мной, пастарэлы, без акуляраў, прышчурваў чырванаватыя вочы, і ў гэты момант мне было так сорамна, я адчуваў сябе так прыніжана, быццам і сапраўды вярнуўся сюды здраднікам. Здрадзіў і вярнуўся. Нарэшце, ува мне ўспыхнуў псых, я зь ціхім азьвярэньнем садраў з нагі чаравік, выпрастаўся й паспрабаваў пасьміхнуцца.

– Праходзь, – Белы кіўнуў у бок залі й падаўся на кухню, бразгаць посудам і прыстукваць дзьверцамі шафаў, – зараз будзе гарбата.

Я ўсё яшчэ з дрогкім сэрцам прабраўся ў гасьцінную. Знаёмая занавеска на ўваходзе пачціва кранула за рукаво. Што ў доме печка, адчувалася яшчэ з парогу: у кватэры жыхарыў цёплы зольны дух. Печка стаяла ў залі, ля вакна, на цаглянай кладцы, жалезная буржуйка, не такая ўжо ржавая, як можна было б уявіць. Стаяла так, як звычайна галоўная рэч у гасьцінай –тэлевізар, ці, скажам, раяль, калі ўся астатняя мэбля, уся абстава, улучна да тапачкаў, уважліва зьвернутая да яе. На падлозе – нейкія скрынкі, рассартаваныя кнігі, і побач разрабаваная кніжная шафа. Бялізна, замочаная ў тазіку. За запацелым шклом якісь пакункі. Мабыць, прадукты: лядоўня наўрад ці працуе.

*Гарбата* ў Белага была сапраўдная.

Ён прынес цэлую груду пасуднага снадзіва, са слоікамі й заварнікамі, і прыняўся распальваць печку:

– Разумееш, цэйлёну й індыйскага зараз, бывае, ня знойдзеш... А на Камароўцы бабкі – шустрыя, попыт учуялі, панавезьлі траваў, зьверабою ўсякага, лісьця, карэньня – на выбар. Народ тоўпіцца, купляе. Дай, думаю, паспрабую. Спачатку асьцярожна: малíньнік там, брусьніцы, ну, што ведаеш – і да чаю дамешваў...

Між словамі ён порстка ўпраўляўся ў чэраве печкі зь нейкімі трэсачкамі й абрыўкамі газэціны, і ўрэшце нахіліўся, разьдзімаючы вугалькі:

– Потым, шафран, гравілаты розныя... Зараз ужо ведаеш, разьбірацца пачаў, што да чаго, што духмяніць, дзе ад жывата, дзе чыста для чыфу. Нюхні, – ён падаў мне шклянку са звонкім сушаным крошывам.

Тварам у травы. Так пранізьліва, так востра пахла суніцамі, што я соладка зьмружыўся. Так пахнуць ягады, поўнай прыгаршчай у рот.

Белы надзеў акуляры, ад чаго яго вочы акунуліся ў лінзы, сталі аграмаднымі, вадкімі. Ён засяроджана й пільна пачаў гатаваць заварку – са знаўствам, па-аптэкарску скрупулёзна, падсыпаючы ды падцярушваючы. Печка ўжо патрэсквала, разыгрывалася й цёпла адсьвечвала па ўсім пакоі. Шумела вада.

– Цудоўная штука, – ён памешваў асьцярожна й прыдзірліва, кончыкам языка спрабуючы з лыжачкі, –

*Працяг на старонцы 12*

# Старонка празаічнага радка



**Валадзей Болка**

## СПОВЕДЗЬ

Я, як прачынаюся раніцай, дык пытаю сябе: «Што, сабака, яшчэ ня здох?»

Жыцьцё – дрэнь! А насамрэч яго зусім няма. Усе мы мерцьвякі. Думаем, што жывем, а на самой справе існуем.

У той вечар такія ж думкі панавалі ў маёй галаве. Нават гарэлка не дапамагала. Піў адзін – а вы самі ведаеце, што гэта такое. Настрой усё больш пагаршаўся.

Гарэлка скончылася, і я вырашыў пайсьці ў які-небудзь бар. Толькі я нікуды ня трапіў. І ўсё з-за таго хлапчука, што гуляў зь мячом на вуліцы. Гэтага шасьцігадовага паразіта не турбавала, дзе дастаць ежы ці знайсьці прытулак. У ягоным узросьце я лазіў па памыйніцах, краў на рынку, а пад вечар забіваўся ў розныя сутарэньні адбыць ноч. Сям'я ў мяне была, але маці зьбівала мяне ўшчэнт, калі была п'яная. А калі яна не была п'яная?!

Я падышоў да яго і адабраў мяч. Гэтая шмаказяўка скакала вакол мяне і крычала: «Дзядзька, аддай! Дзядзечка, аддай!» «Сынок, сьвет існуе не для таго, каб гуляць зь мячом. Ёсьць шмат іншых цацак», – прасіпеў я і дастаў з кішэні нож. Гэты шчанюк з жалобай глянуў мне ў твар і прамовіў: «Гэта несправядліва. Аддайце мяч». «Несправядліва?! – зарагатаў я яму ў твар. – А што ты зараз скажаш?!» І шыпеньне мячыка зьлілося з усхліпваньнямі хлапчука. «Гэта несправядліва», – душыў ён зь сябе. Такога я ня мог стрываць: «Што ты дзяўбеш: справядліва-несправядліва?! Маліся лепей, каб я цябе тут не прырэзаў!.. Ты глядзіш на сьвет праз ружовыя акуляры. А ўсё навокал шэрае, бруднае, гатовае ўкусіць цябе ў кожны момант – толькі адвярніся...»

– Што ты робіш?! – пачуў я з-за сьпіны.

Я нібыта прачнуўся ў той момант і паглядзеў на ўсё збоку: хлопчык ляжаў на асфальце, я над ім з нажом ля горла. Але ў наступнае імгненьне я ўжо з развароту ўдарыў таго, хто стаяў за сьпінай. «Кожны сам за сябе!» – вырвалася зь мяне, і я кінуўся на яго з нажом. Толькі цяпер я разгледзеў, хто гэта быў – дзед гадоў за семдзясят. Якой халеры ён палез на мяне?!

У вачах стала чырвона. Гэта кроў лілася зь ягонага цела, а я, як шалёны, усё біў і біў нажом па яго бездыханных грудзях.

Потым мне стала жудасна, і я пабег няведама куды. За мной нехта імчаўся, я чуў крокі, дыханьне ў сьпіну, але, калі паварочваўся, нікога ня бачыў. Толькі злосныя цені паўсюль...

Перада мной зьявілася таксі. Заскочыў праз заднія дзьверцы і прыставіў нож да горла шафёра.

«Божа, дапамажы», – шаптаў ён усю дарогу. Я зноў не стрываў: «Божа? Я тут Бог! Я караю ці літую!»

Мабыць, я моцна націснуў на горла, бо нечакана салён машыны заліўся крывёю. Таксі збочыла з дарогі і ўрэзалася ў дрэва... Больш нічога ня памятаю.

Толькія ні аб чым не шкадую. Сабака не шкадуе аб сваім жыцьці перад сьмерцю. Нарэшце, усе мы жывёлы. Перамагае мацнейшы.

Сказаць па праўдзе, мне не шкада нават свайго жыцьця. Ды які ў ім сэнс? Жыць дзеля існаваньня? Ды пакажыце мне таго, хто ведае мэту свайго жыцьця!..

Такім чынам, я прашу, каб суд ня вынес мне вышэйшую меру пакараньня. Гэта ўсё, што я хацеў сказаць у сваім апошнім слове.

**Аляксей Бруй**

## ЛЕГЕНДА ПРА АРКЦПАКА

*ГІСТОРЫЯ, ЯКУЮ РАСКАЗАЎ СТАРЫ АНЧЫОКЛЬ*

Тысячу вёснаў жыве наш народ і столькі ж вёснаў мы прыносім ахвяры нашаму богу – богу Сонца Катцэльпону. Так было заўсёды і так будзе заўсёды, пакуль жыве хоць адзін майпонк. Гісторыю, якую я табе раскажу, мне расказаў мой дзед, а яму ягоны дзед, які яе пачуў ад бацькі свайго дзеда, які сам бачыў Аркцпака...

У тыя часы кожны чалавек жыў толькі затым, каб потым, калі ён састарэе, паплысьці насустрач Катцэльпону. І людзі верылі, што калі чалавек памрэ тут, сярод нас, то ён загінуў назаўсёды. І таму, калі стары адчуваў надыход сьмерці, ён сядаў у човен, яму давалі ежы на адзін дзень і залатыя выявы бога Катцэльпона, якія павінныя былі задобрыць нашага справядлівага бога. Мы верылі, што Рака Бога прыводзіць да яго, ня пройдзе і дня. Таму чалавек садзіўся ў човен пад радасныя песьні жанчын і выпраўляўся ў дарогу. Яму ўсе зайздросьцілі – ён будзе разам з богам ужо заўтра, а нам давядзецца чакаць яшчэ многа вёснаў.

Бывалі дні, калі ў шлях выпраўляліся некалькі чалавек, і прыгожая гэта была карціна – старыя ўбіраліся ў новае адзеньне й плылі зь вянкамі на галовах, трымаючы статуэткі бога, удалеч, насустрач заходзячаму сонцу, а вакол іх чаўноў гойдаліся самыя прыгожыя кветкі лесу.

І ўсе выходзілі і глядзелі, як яны плывуць па рацэ, і як яна адносіць іх у Вялікае Мора, і потым яны яшчэ доўга былі бачныя на даляглядзе, але ноч хавала іхныя постаці, і больш іх ніколі ня бачылі.

І ўсё было добра, пакуль не зьявіўся Аркцпак. Я кажу «зьявіўся», хоць ён рос да гэтага часу сярод нас і быў падобны да нас. Але калі захварэў ягоны бацька, яму было ўжо сямнаццаць вёснаў. Калі ж на савеце вырашылі паслаць ягонага бацьку да бога, ён падняўся і сказаў:

– Не! Я не аддам яго нікому. Ні вам, ні вашаму богу! Ён вылячыцца!

Доўга не маглі паверыць, што ён выступіў супраць волі савету і супраць самога Катцэльпона. А потым пастанавілі выслаць яго да бога, бо ня ведалі кары, якой ён заслугоўваў. Вырашылі, каб бог сам прызначыў яму кару...

І вось прывязалі яго за рукі і ногі да чоўна і адштурхнулі човен ад берага. І адвярнуліся ўсе, каб не глядзець у ягоны бок.

Калі ён зьнік, многа дзён хадзілі ў задуменьні людзі. Ніхто не гаварыў пра Аркцпака, але ўсе толькі пра яго й думалі. І ўжо пачаўся сэзон даждхоў, і дождж загнаў людзей у буданы, і ніхто не выходзіў на вуліцы. Прайшло яшчэ дваццаць дзён, і бацька Аркцпака паправіўся, а яшчэ праз дзесяць дзён Аркцпак вярнуўся. Яго цяжка было пазнаць – худы, з палаючымі вачыма, у лахманах і зь мехам за плячыма. Ён стаў пасярод паселішча, паклаў свой мех і закрычаў:

– Гэй! Глядзіце! Гэта я – Аркцпак!

Але ніхто ня выйшаў са сваіх хат. Людзі глядзелі на яго праз шчыліны ў сьценах і не выходзілі. І ён закрычаў зноў:

– Глядзіце ж! Я вярнуўся! Ці вы не пазнаеце мяне? Я быў там. Я ведаю – Катцэльпона няма. Я плыў дзень і ноч, і ў Вялікім Моры мяне падхапіла новая рака, што цячэ пасярод яго. Я плыў тры дні і тры ночы, пакуль мяне не прыгнала да берага і не выкінула на камяні. Човен разьбіўся, і калі я ачуняў, я быў свабодны! І ўбачыў я каля сябе горы шкілетаў. Гэта былі вашыя бацькі і дзяды! І гэта будзеце вы! – крычаў ён. – Шкілетамі быў завалены ўвесь бераг, і каля кожнага ляжала статуэтка вашага бога. І толькі адзін чалавек быў жывы. Гэта быў апошні з тых, каго вы адправілі да бога. Ён быў жывы, але гэта быў ужо не чалавек – ён звар'яцеў. Я быў там цэлы дзень. Я шукаў выйсьця. Наўкола былі скалы. І толькі на наступны дзень я ўбачыў скалу, па якой можна было ўзьлезьці наверх і пералезьці гэтую граду. Я сабраў некалькі залатых фігурак вашага бога. Вось яны, тут, у мяху, – ён пхнуў нагой мех. – І я палез наверх. Толькі малады і дужы чалавек мог узьлезьці туды. Старыя ж усе памерлі бязь ежы і вады. Там, на другім баку скал я блукаў датуль, пакуль не знайшоў людзей, і яны паказалі мне дарогу сюды. І вось я тут. Глядзіце ўсе. Я – Аркцпак – кажу вам – вашага бога няма.

Але ніхто яму не адказаў. Усе маўчалі. І тады ён сеў каля меха і сядзеў там дзень, а затым ноч, а потым зноў дзень, а новай ноччу ён заснуў. І мы пайшлі адтуль, ад нашых хат, ад Ракі Бога, ад Аркцпака. Мы ішлі наперад, самі ня ведаючы куды. Прайшла вясна, лета, пачалася восень, і вось мы прыйшлі сюды, у гэтую даліну.

З таго часу прайшло многа вёснаў, памерлі ўнукі тых, хто бачыў Аркцпака, і ўнукі тых унукаў, і ўнукі гэтых унукаў. Але кожны памятае Аркцпака, але ніхто ня можа ўслых вымавіць гэтае імя. Гэта можам толькі мы – тыя, хто стаіць блізка ад сьмерці, і каго Аркцпак пазбавіў выратаваньня.

**Ганна**

## МОЙ ВОЛАТ

Мне так хочацца, каб ты быў моцным. Моцным ва ўсім. Каб мог пераадольваць цяжкасьці і быць шчасьлівым. Я хачу, каб ты быў абаронцам тым, хто слабейшы, каб людзі, што навокал, імкнуліся да твайго сьвету. Як добра было б, каб ты зьнішчаў адзіноту і боль.

Я разумею, што гэта немагчыма. Але ж я так стамілася ад шэрых дзён, якія я не магу афарбаваць радасьцю. І я хачу верыць, што ты, мой будучы сын, здолееш зрабіць тое, што для мяне немагчыма. Я спадзяюся, што разам з табою ў маё сэрца прыйдзе спакой, а ў жыцьцё – сьвет. Я веру ў цябе, Мой Волат.

**Вітаўт Мядзелка**

## ЦІХАЯ КВАТЭРКА

*(З ЦЫКЛЮ «БЕЛАРУСКІЯ ГІСТОРЫ»)*

Васіль Рахманьчык быў чалавекам ціхім. Нарадзіўся ў звычайнай сям'і ў ціхім гарадку, вучыўся таксама ў звычайнай школцы, што месьцілася на самай ціхай вулачцы, закахаўся ў звычайную дзяўчыну, якой у тым прызнаўся на беразе ціхай рачулкі, адгуляў звычайнае вясельле дый зажыў ціха-ціха. Усё сваё сьвядомае дарослае жыцьцё ён сумленна працаваў на маленькім заводзіку ды корпаўся патроху ў гародзе, дзе расьціў бульбу ды гуркі на ўжытак сваёй сям'і. Жыў Васіль у звычайнай кватэры-двухпакаёўцы з жонкаю Марыляй і сынам Янкам, і, дзякуючы працавітасьці сваёй і з Божай дапамогай ня меў ніколі вялікай бяды ды нястачы. Гэдак і меўся ён дажыць у спакоі да старасьці, ды ўсё жыцьцё ягонае раптам перавярнулася.

Усё пачалося з таго, як у госьці да іх завітаў жончын дзядзька Рыгор. Ня тое, каб ён быў Марылі родным дзядзькам – ступені сваяцтва яны й самі не маглі добра вызначыць – ды ўсё ж такі нейкім сваяком Рахманьчыкам ён даводзіўся. Да таго ж, Васіль ды Марыля былі людзьмі гасьціннымі, таму й прынялі дзядзьку Рыгора, быццам быў той найраднейшым ім чалавекам.

Жыў дзядзька на вёсцы, дзе ён ці сьвіней пасьвіў, ці дзетак у школцы вучыў – дакладна тое вядомым не было, бо Рыгор ня надта ахвочы быў сваё саўгаснае жыцьцё-быцьцё ўзгадваць, а Васіль ня дужа імкнуўся таямніцу гэтую раскрыць: навошта яму было тое ведаць? Праз ціхасьць сваю ня меў Рахманьчык звычкі надта лезьці людзям у душу ды дакучаць роспытамі.

Між іншым, дзядзька Рыгор дужа ўпадабаў гарадзкое жыцьцё. І хаця гарадок іхны быў ня надта й вялікі, але, вядома, пасьля вёскі й гэтага было дзядзьку дастаткова, каб адчуць сябе ў якой-ніякой, а ўсё ж цывілізацыі. І так яму было гэта даспадобы, што, здаецца, і не зьбіраўся ён нікуды зьяжджаць ды да сваіх парсючкоў вяртацца. А Рахманьчыкі – ня тыя людзі, каб госьця выпраўджваць. Так і застаўся дзядзька Рыгор у іх.

Час ішоў, ды Васілю з Марыляй за працай штодзённай не было калі назіраць за ягоным няспынным бегам. Не сумаваў і Янка, які падрос і з маленькага хлопчыка ператварыўся ў юнака. Янку з маленства вабіла да сябе навука, і зараз цэлымі днямі прападаў ён за кнігамі ды ня проста чытаў, а запамінаў шмат чаго ды матаў на вус. Аднаму толькі дзядзьку Рыгору не было чаго рабіць: працаваць ён, шчыра кажучы, ня дужа любіў, а кніжкі дык проста ненавідзеў – ніколі іх не чытаў. Але ж натура ў яго была, прама скажам, дзейсная, сядзець на адным месцы яму ня надта падабалася, таму й вырашыў ён падшукаць і сабе які-небудзь занятак. Доўга думаў дзядзька Рыгор, чаму прысьвяціць сябе, доўга чухаў сваю праплешыну, якую лічыў адмецінай надзвычайнага розуму, доўга круціў свае шыкоўныя фэльдфэбэльскія вусы, якімі таксама вельмі ганарыўся, і ўрэшце прыдумаў. Вырашыў ён узяць на сябе найбольш цяжкую й адказную працу – такая ўжо была ў яго натура – кіраваць усёй гаспадаркай Рахманьчыкаў, пра якую яны, як яму падавалася, недастаткова дбалі. Палічыў дзядзька Рыгор, што ўсё гэта ёсьць вынікам адсутнасьці мудрага кіраўніцтва, і, абвесьціўшы прыемную навіну аб сваім рашэньні гаспадарам, узяўся за справу з усім энтузіязмам.

Зараз штодзень, лежачы на канапе, дзядзька Рыгор кіраваў гаспадаркай. Аказалася, ён меў ня толькі неверагодны талент арганізатара, але й быў дасьведчаны ўва ўсім, што магчыма толькі сабе ўявіць. Ён ведаў, як дакладна трэба расставіць мэблю па кватэры – і Васіль з Марыляй перасоўвалі шафы ды ложкі зь месца на месца.

А Янка ўсё чытаў свае праўдзівыя кніжкі ды рабіўся разумнейшым і разумнейшым...

Дзядзька Рыгор ведаў, што і як трэба сеяць на гародзе, каб быў лепшы ўраджай – і Васіль з Марыляй перакопвалі свае грады, каб усё было «па навуцы».

А Янка працягваў мужнець, расьці ды не спыняў свайго чытаньня і з кожнаю старонкаю ўсё больш і больш разумеў навакольны сьвет...

Дзядзька Рыгор ведаў, дзе і як трэба захоўваць грошы – і Васіль з Марыляй паслухмяна – яны ж былі людзьмі вельмі ціхімі – аддавалі ўсё свайму энэргічнаму сваяку і ўсё не спыняліся зьдзіўляцца ягонаму спрыту й розуму.

А Янка чытаў ды прыглядаўся да жыцьця...

Дзядзьку Рыгору не падабалася гэтае Янкава чытаньне, бо хто як ня ён гэдак моцна ненавідзеў усе кніжкі, у якіх нічога не разумеў, і ведаў, якімі шкоднымі яны ёсьць – асабліва для моладзі.

А Янка чытаў...

Ды дзядзьку няма калі было марнаваць час на кніжніка Янку: яго чакалі новыя справы.

Аднойчы, седзячы ў манапольцы ды пакрысе прапіваючы грошы, якія яму даверліва аддалі Васіль з Марыляй, – павінен жа кіраўнік адпачываць ды расслабляцца пасьля цяжкое працы! –прыдумаў дзядзька Рыгор сабе новую работу. Справа ўся ў тым, што час ад часу выпіваў ён разам з домакіраўніком. Чалавек той быў вельмі паважаны, хадзіў заўсёды пры гальштуку ды зь вялікай і вельмі прыгожай чырвонай папкай, дзе насіў усе свае паперы. Гэтая самая домакіраўнікоўская папка й не давала спакою дзядзьку Рыгору, бо была яна ягонаю даўняй марай. Вельмі ж карцела яму займець гэтую папку, і таму вырашыў ён сам прабіцца ў домакіраўнікі. Дзеля гэтага патрэбным было ўсім у гэтым доме паказаць, які ён – дзядзька Рыгор – энэргічны ды разумны, каб на новых выбарах пасаду, што была такая мілая ягонаму сэрцу, аддалі менавіта яму. Ведаў ён, што дзеля гэтай перамогі трэба мець саюзьнікаў – жыхароў кватэры, якая была з правага боку ад двухпакаёвачкі Рахманьчыкаў. Кватэра тая была самай вялікаю ў доме, і сям'я, якая яе займала, была таксама найбуйнейшай – жыло там безьліч сваякоў, а колькі ў іх было дзяцей – дык, напэўна, яны й самі таго ня ведалі. І гэткія крыкі, гвалт ды бязладзьдзе заўсёды стаялі там, што ніхто ня мог рады даць.

Але дзядзька Рыгор вырашыў, каб схіліць тых суседзяў на свой бок, далучыць кватэру Рахманьчыкаў да іхнай. Параіўся з суседзямі – тым гэтага й трэба, каб стала вальней ды дзеці іхныя незьлічоныя перасталі рабіць крык ды ламаць мэблю, перабраўшыся да суседзяў. А Васіль з Марыляй нічога насуперак дзядзьку не сказалі: верылі яны – што б ні зрабіў той, усё да лепшага.

А дзядзька Рыгор, ня доўга разважаючы, праламаў сьцяну, што аддзяляла іхную кватэру ад суседзкае. Што тут пачалося: увесь бруд хлынуў да Рахманьчыкаў, уся іхная ціхая двухпакаёвачка напоўнілася крыкам ды лаянкай, паўсюль снавалі суседзкія дзеці, робячы шкоду. Але Васіль ды Марыля былі людзьмі ціхімі, ды прымалі ўсё пакорліва...

Дзядзьку Рыгора ж нібыта чэрці насілі. Ён лётаў па хаце, увіваўся каля кожнага з суседзяў ды ўсё наравіў каму руку пацiснуць, каго пацалаваць у лысіну, каго – яшчэ куды-небудзь. Ад гэтых ягоных шчыраваньняў толькі ўзьняўся яшчэ большы шум ды гоман – проста пыл слупом стаяў у кватэры.

Суседзі зьлева, якія суседзяў справа ня дужа любілі за іхнія няспынныя сваркі ды неахайнасьць, і да Рахманьчыкаў пачалі прыглядацца з насьцярогаю. Маўляў, навошта пусьцілі ў сваю кватэру арду гэтую? Ды дзядзьку свайго разбэсьцілі так навошта? Але Васіль з Марыляй на гэтыя пытаньні толькі плячыма паціскалі: яны ўжо й самі ня радыя былі, што паслухаліся Рыгора, але што рабіць? Дзядзька разумнейшы, хай ён сам парадак і ўсталёўвае...

Ды толькі ня думаў гэдак Янка. Ён, кніжак мудрых пачытаўшы ды вачыма маладымі за сьветам паназіраўшы, ужо ведаў, што трэба рабіць...

ЛІТАРАТУРНАЯ ПРЭМ'ЕРА

# ВАЎЧЫНАЯ ЯМА

Так называецца новая аповесьць Васіля Быкава, якую аўтар толькі што закончыў у Фінляндыі.

*... Былы салдат становіцца дызэртырам, які ўцёк з сучаснай вайсковай казармы. Ягоны шлях — у Зону. На атручанай, пакінутай зямлі спадзяецца ён знайсьці схоў ад перасьледу, паратунак ад несвабоды. Зона, аднак, мае свае няўмольныя законы...*

Першае чытаньне новае аповесьці Васіля Быкава — на хвалях Беларускае службы радыё «Свабода» кожныя нядзелю, аўторак і чацьвер а 18 і 22 гадзінах. Хвалі «Свабоды» — 31, 41 і 49 мэтраў, пастаянная частата 7295 Кгц.

У кастрычніку — з ласкавае згоды аўтара — на старонках «Нашае Нівы».

# ЗЬ ВЕРАЮ Ў РОДНУЮ

**С. Харэўскі. Зьвяры-суайчыньнікі. – Менск, 1998.**




Найкаштоўнейшым камэнтаром да творчасьці заўсёды ёсьць жыцьцяпіс творцы. Усьведамленьне гэтае старое ісьціны й змушае адразу папярэдзіць чытача, што апошнія энцыкляпэдычныя даведнікі памылкова сьцьвярджаюць, нібыта беларускі мастак, літаратар, мастацтвазнаўца й біёляг Сяргей Харэўскі нарадзіўся ў Менску (Мінску). Перад намі або вынік дрымучае недасьведчанасьці айчынных «энцыкляпэдыстаў», альбо іхны рэвэранс ідэалягічным установкам і прыхамацям улады.

Насамрэч зямны шлях аўтара кнігі, якую вы трымаеце ў руках, пачаўся водбліз гарадка Кінгстан у паўднёвых адгор'ях новазэляндзкіх Альпаў. Ціхія завадзі возера Тэ-Анаў, падобнага абрысамі да разьятранага аўстралійскага апосума, яшчэ не забылі маўклівага летуценнага хлапчука, чый продак –беларускі паўстанец 1863 году – ступіў на бераг экзатычнае краіны роўна за сто гадоў да нараджэньня праўнука Сержа.

Выключную ролю ў лёсе С. Харэўскага адыграў той факт, што на пачатку XX стагодзьдзя ягоны дзед быў адным зь сямі новазэляндзкіх падпісчыкаў газэты «Наша Ніва», падшыўку якой амаль праз семдзесят гадоў наш юны суайчыньнік знайшоў у фамільным архіве.

Самастойнае вывучэньне мовы далёкае шматпакутнае Бацькаўшчыны, сьвет вобразаў і ідэалаў песьняроў Маладой Беларусі, а таксама прапагандысцкія акцыі, ладжаныя ў Кінгстане мясцовым аддзяленьнем таварыства «СССР – Новая Зэляндыя» найістотнейшым чынам паўплывалі на сьветапогляд юнака, абумовіўшы цьвёрды намер вярнуцца на зямлю продкаў.

Будзе недаравальнай памылкаю лічыць, што разьвітаньне з краінаю маленства прайшло лёгка й бясхмарна. На 45-м градусе паўднёвае шыраты заставаліся ня толькі дзіцячыя крозы, але й першае каханьне – дзяўчынка-маоры, што надзіва рана адкрыла Сержу таямніцы космасу, што завецца жаночым целам, і шматлікія загадкі новазэляндзкае прыроды, на чым улоньні расьцьвіло пачуцьцё каханкаў-малалетак. Фаўна выспаў зь ейнай безьліччу рэліктавых відаў назаўсёды станецца вялікай любоўю С. Харэўскага, аб чым красамоўна сьведчыць і яго новая кніга, дзе літаральна на кожнай балонцы гучыць водгульле незабыўных новазэляндзкіх уражаньняў і адкрыцьцяў.

Жыцьцё на берагох Сьвіслачы хутка сутыкнула мройлівага рэпатрыянта з рэальнасьцю разьвітага сацыялізму. Выключэньне зь піянэрскай арганізацыі за сувязь з важатай, і пагроза высылкі з Савецкага Саюзу, ад чаго ўратавала адно сьмерць Ю. Андропава. Здрада аднакурсьнікаў зь Менскай мастацкай вучэльні, над будынкам якое ў 1986 годзе былі вывешаныя два нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі, што памяталі цеплыню рук навучэнца С. Харэўскага. Вымушанае паступленьне ў Расейскую Акадэмію мастацтваў, бо радзіма-мачаха выпісала свайму сыну «воўчы білет». Гэта вельмі пункцірная лінія тых драматычных для С. Харэўскага гадоў, калі яго ўсё часьцей наведвалі думкі пра рээміграцыю.

Але ў дні чорнай скрухі і паняверкі на дапамогу прыходзіла мастацтва. У творчай майстэрні маладога мастака доўга ня гасьлі вокны. За імі нараджаліся партрэты волатаў беларускае мінуўшчыны, аднак на зьмену мужнаму абліччу гетмана К. Астрожскага на белай нерушы паперы зьнячэўку ўзьнікалі выявы інсэктаў, зьвяроў і птушак беларускіх лясоў, палёў і нябёсаў. Гэта пачынала ўладна прамаўляць бязьмежнае захапленьне роднай прыродаю. Адно яно разам з магутным і неўтаймоўным інстынктам дасьледчыка і магло адарваць таленавітага маладзёна ад алоўка й пэндзля. Зазначым, што яшчэ ў піянэрскім узросьце ў часе асочваньня беларускага яшчара – каркадрыла (Lacerta apythana), якога, паводле пастаўленых цяпер пад сумнеў афіцыйных зьвестак, апошні раз бачылі ў Сьвіслачы ў год правядзеньня ў Менску I-га зьезду РСДРП, Харэўскага тройчы затрымлівала міліцыя, але юнага натураліста нязьменна выручала бездакорная ангельская мова.

Аднак сапраўдным паратункам для С. Харэўскага сталася аднаўленьне выхаду «Нашае Нівы», газэты, у якой новазэляндзкі хлопчык некалі, робячы сьмешныя памылкі, упершыню прачытаў па складох «Пагоню» М. Багдановіча.

Жыцьцёвае кола замкнулася.

Менавіта на балонках «Нашае Нівы» сустрэліся з чытачом ягоныя арыгінальныя малюнкі й тэксты, амаль кожны зь якіх выклікае шаленства ідэалягічных цэнзараў ды філістэраў ад мастацтвазнаўства й біялёгіі.

З «Нашай Нівы» прыйшла да нас і гэтая кніга, да краёў напоўненая таемнымі водарамі беларускіх пушчаў, паплавоў і сьпіжарняў, дзе малады вучоны падпільноўвае сваіх улюбёных герояў-суайчыньнікаў.

Убачыўшы, як С. Харэўскі, зьнерухомеўшы, утаропліваецца ў невідочную кропку на сьцяне, супрацоўнікі рэдакцыі ўжо даўно не палохаюцца. Яны ведаюць, што ў гэты момант вострае вока калегі выцікоўвае няпраўдзівага кніжнага скарпіёна (Chelifer coneroides), таго самага, швэдзкая папуляцыя якога выратавала ад кніжнае блыхі камплекты беларускіх газэтаў 1918-1920 гадоў ва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы Упсалы.

Сотні кілямэтраў прайшоў па дарогах і праплыў па рэках роднага краю С. Харэўскі, каб зайсьціся ад шчасьця, нарэшце пабачыўшы на пустэльным беразе ракі Асьцёр сьляды баляваньня хахуляў (Dosmana moschata) або зьмеціць маланкавы палёт вавёркі-палятухі, што, дзякуючы клопатам савецкае ўлады, выжыла ў Лёзьненскім раёне. (Можа, у тое імгненьне ён успомніў смак печанага на вугольлі мяса новазэляндзкіх палятухаў ягонага дзяцінства, якім перад пешай ноччу ў адпаведнасьці са старажытным звычаем маоры яго частавала юная каханка?)

Пра якую б родную нам істоту ні апавядала таленавітае пяро С. Харэўскага – пра празьмерна

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

Анішчанка Я. Беларусь у часы Кацярыны II (1772-1796) / Пад рэд. І. Сосна. – Менск: ЗАТ «Веды», 1998. – 220 с. – Наклад 1 000 ас. ISBN 985-6390-72-9

Баршчэўскі Я. Выбраныя творы / Укладаньне, прадмова і камэнтары М. Хаустовіча. – Менск: Беларускі кнігазбор, 1998. – 480 с.: іл. – Наклад 7 000 ас. ISBN 985-6318-26-2

Беларуская энцыкляпэдыя: У 18 т. Т. 6: Дадаізм – Застава / Рэдкал.: Г. Пашкоў і інш. – Менск: БелЭн, 1998. – 576 с.: іл. – Наклад 10 000 ас. ISBN 985-11-0106-0 (т. 6) ISBN 985-11-0035-8

Гісторыя Беларусі: У 2 ч. / Ч. 2. Люты 1917 г. – 1997 г.: Вучэб. дапам. / Пад рэд. Я. Новіка, Г. Марцуля. – Менск: Унівэрсытэцкае, 1998. – 464 с. – Наклад 10 000 ас. ISBN 985-09-0305-8

Дубавец С. Дзёньнік прыватнага чалавека. 1989-1998. Апавяданьні, імпрэсіі, эсэ. – Менск: БГАКЦ, 1998. – 80 с. –Наклад 500 ас. (Бібліятэка «Фрагмэнты»). ISBN 985-6012-46-5

Запрудскі С. Праваўпісныя рэформы ў славянскіх літаратурных мовах у XX ст. – Менск, 1998. – 24 с. – Наклад 100 ас.

Кур'ян А. Соль надзеяў нашых. Нарысы, апавяданьні. – Менск: Бел. выд. Т-ва «Хата», 1996. – 136 с.: іл. – Наклад 2 600 ас. ISBN 985-6007-30-5

Міцкевіч А. Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве: Шляхецкая гісторыя 1811-1812 г. у 12 кнігах вершам / Пер., камэнтары Я. Семяжона; Прадм. К. Цьвіркі. – Менск: Мастацкая літаратура, 1998. – 367 с.: іл. – (Школьная бібліятэка). – Наклад 24 000 ас. ISBN 985-02-0427-3

Прыгодзіч М., Ціванова Г. Старабеларускі лексыкон. Падручны перакладны слоўнік. – Менск: Бел. выд. Тав-ва «Хата», 1997. – 175 с. – Наклад 3 000 ас. ISBN 985-6007-39-9

Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай; Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагодзьдзя: Вершы / Уклад., прадмова і камэнтары У. Мархеля. – Менск: ППП імя Я. Коласа, 1998. – 622 с. –(Літаратурныя помнікі Беларусі) – Наклад 4 000 ас. ISBN 5-8328-0065-6

Рэвяко К. Антычная спадчына на Беларусі: Манаграфія / Пад рэд. М. Корзуна. – Менск: ЗАТ «Веды», 1998. – 100 с. – Наклад 1 000 ас. ISBN 985-6340-76-1

Сіўчыкаў Уладзімер. Лісты да брата. Проза. – Менск: Радыёла-плюс, 1998. – 150 с. – Наклад 200 ас. ISBN 985-448-001-1

Корзенко Г. Подготовка научных кадров в Беларуси. Взгляд сквозь годы. – Менск: Бел. выд. Т-ва «Хата», 1998, – 168 с., табл. – Наклад 200 ас. ISBN 985-6007-37-2

Шибалис М. Мгновения в памяти и в сердце. Нарысы, публіцыстыка, вершы. – Менск: Бел. выд. Т-ва «Хата», 1998. –176 с.: іл. – Наклад 1 000 ас. ISBN 985-6007-46-1

# ПАЛЕНЬНЕ



*Працяг са старонкі 9*

чай дае толькі тон. Уся спэцыя ў зёлках. Заварыш, яно як нацягнецца... Б'е токам. Мазгі праясьняе, паўдня ходзіш сьвежы.

Белы чакальна глядзеў, як мне пакаштуецца.

Ух, і моцна. Гарачэнны, церпкі настой так шыбануў з двух неасьцярожных глыткоў, што я ў міг спацеў і нема выдахнуў, як ашпараны. У гаркавае чайнае гушчы аж сінеў ёдкі, патрабавальны прысмак чагосьці ляснога. Дзіка моцны. Цярпіма толькі паціху прысёрбваць.

– Бальзам, – Белы пацмокваў, рассмакоўваючы кожны пякучы каўточак, зрэнкі ў велізарных лінзах прыцэльна ўздрыгвалі. – Гарачы, гаючы. Галоўнае, не аглядвацца, бяз цукру. У прынцыпе –нацыянальны прысмак.

Не, для мяне занадта. Я пас.

– Так і жывем, – Белы адпіў яшчэ й яшчэ, – без гарачай вады. Халодную толькі ў стаяк падаюць, на першым паверсе. Носім, кіпяціць трэба. Прыбіральню ня змыеш, тхне, як параша. Ты ўжо чуў, які дух у пад'езьдзе стаіць. Сьвятло ўключаюць на пару гадзінаў, хоць тэлевізар, навіны зірнуць. Гэта, дарэчы, файна глядзіцца – бах, і цэлыя мікрараёны ўспыхваюць сярод ночы. Прывыклі... Печка, ну вунь, сам бачыш, сала за форткай. Транспарт рэдка калі, усё пешшу. Пабегаеш тут. А бегаць даводзіцца.

Ён замоўк, дапіў, нахіліўся адставіць кубак, і тут я ўбачыў – у яго на скроні, ля вуха, быццам сарвалася струнка – сівы валасок.

– Ты па кнігі прыехаў? – ён пранікліва паглядзеў на мяне сваімі вялікімі вачыма. – Я так і думаў. Ня знаю, хто здагадаўся, а я табе скажу – фантастыка. Сама ідэя, ты ўяўляеш!.. Сьпярша хлопцы франтаўскія зь нейкай кнігарні вывалаклі, і давай паліць. Па адной, пад вершы. І раптам – канцэрт. Кніг панавезьлі навалам, згрузілі горы, адкуль столькі. Народу прорва. Ты што!.. Гэта трэба бачыць – гэты жар, усё раве, моладзь шалее, і проста са сцэны – у вагонь! – Белы рэзка шпурнуў рукой, вочы ярка блішчэлі разам са шклом.

– Процьма ўсякае швалі. Бамжам бы сагрэцца, пэнсіянэры з усяго наваколья бадзяюцца, ім па колькі штук на растопку. Тут жа букіністы, найрадчэйшыя кнігі раскопваюць. Антыкварыят.

Ён памаўчаў.

– А ў мяне тут свая расправа, – хітнуў на кніжныя склады ўздоўж сьценаў, – я пасьля канцэрту дамоў прыйшоў, і да печкі. Згроб усё гэта дабро... Кніжкамі таплю, – проста сказаў Белы, узяў нейкі том, што трапіўся пад руку і балюча, з хрэскам разадраў яго ў руках. Запхаў у грубку, і, назіраючы, як напінаецца, вось-вось лопне вокладка, як задыхаюцца, чарнеюць лісткі, задуменна працягваў:

– Спачатку, думаў, макулатуру ў расход. Потым за сярэднячкоў вазьмуся, а лепшае, значыць, легенды – напрыканцы. На салодкае, так сказаць. Але пасьля – не, брат ты мой, наадварот, дай-ка сьпярша самыя галоўныя пойдуць. А то як раптам цяпло дадуць, ужо ня той будзе перац, сам разумееш.

Мне падалося, пытаньне вартае:

– І што?

– А вось што, – ён, як паленьне, падклаў другую палову кніг, – пад настрой. Знаеш, гэта самае лепшае. Рэкамэндую. Бывае, такія позвы на рамантыку, аж дрыжыш – гэта, дапусьцім, Гайдар. Або Леў Касіль, помніш, быў такі ў клясе сёмай. Перагляджу, пагартаю, асьвяжу зарніцы свае піянэрскія – і ў вагонь. Гарыць весялей, і грэе, і сумна... Сьветлы такі сум. Бывае, палю ўсю ноч да ўгару. Знаеш, на раніцы, як сьвітае, распахнеш вокны, запацелыя, і стаіш... Каго-нікога поўным зборам твораў адпраўляю. Пластом, толькі хрыбет пераламіць, і ў трубу. А некаторых шкада, хоць плач. Усё-ткі чытаў. Ня думай, я ж таксама не драўляны...

Белы не дагаварыў, пакутліва закашляўся.

– Вось, – нарэшце, агоўтаўшыся, паказаў ён кнігі, – Талстой. Уяві, знайшоў засохлыя кветкі – з пылком, пялёстачкі, усё як трэба. Успомніў. Гэта мы з жонкай зьбіралі ўлетку, толькі пазнаёміліся. На памяць сюды клалі. У самае тоўстае. Крохкія... І старонкі панюхаеш. Яшчэ ўгадваецца, дзе што было.

Ён паднес раскрыты том да твару й пацьвердзіў:

– Пахнуць.

Дэталь цудоўная.

– Кветкі ты куды падзеў?

– Пераклаў у Купалу.

Жонка ў яго натура тонкая. Як толькі сьпяць разам.

– А Іну ў вёску адправіў з Толікам, – Белы глядзеў у вагонь, –няма чаго тут ёй зь дзіцём рабіць. Урэшце, дзеля малога ўсё й робіцца. Хоць ён ня будзе давіцца ўсёй гэтай тоўшчай дурной.

Белы трохі пакапаўся каля сябе й выцягнуў нешта яшчэ, глянцавітае, пунсовае з чорным. Такое я пазнаю зь першага погляду. Булгакаў. Майстар і Маргарыта, у мяне дома такая ж.

– Вось, адмыслова для цябе. Каронны нумар. Даўно хацеў паглядзець, ці гарыць. А то ёсьць сумненьні.

Ён плянамерна й жорстка, як кат, вырваў з коранем усю сярэдзіну, распатрушыў на лісткі й моцна, сьціснуўшы зубы, з томнаю насалодай хрумснуў цьвёрды пераплёт упоперак калена. Паглядзеў на мяне, запрашаючы ў сьведкі.

Булгакаў гарэў. Яго ахапіла зырыстым, ярасным полымем. Лісты курчыліся моўчкі, у імгненьне палымнелі й пырхалі чорным прахам.

Я ня мог адарваць ад печы вачэй. Здаецца, я ж яе на памяць ведаю, гэтую кнігу. Столькі чытаў. І сапраўды, усё проста. У белым плашчы...

У печы трэснула.

Белы сядзеў нерухома. У твары яго кідаліся, перабягалі чырвананатыя водсьветы. Ціхімі, грознымі ўспышкамі азаралі, як помнік, патрэсканы маршчакамі лоб, падцятае шчацінiстае пабародзьдзе. Шкло акуляраў блікавала бязьлітасна й зло. Па-д'ябальску.

# ПРЫРОДУ

пашыранага на абшарах Рэспублікі Беларусі рабога сусьліка (Citellus suslicus) ці пра заўважанага ў навакольлі Мазыра рэдкага на гэтай паралелі нацыянальна сьведамага пэлікана (Pelecaniformes), які прылятае на танцпляцоўку паблізу Прыпяці, пагойдваецца ў тахт мэлёдыі і ўцякае ад непрыяцеляў з выразным крыкам «Жыве Беларусь!» – перад чытачом нязьменна паўстаюць жывакроўныя, псыхалягічна дакладныя вобразы крылатых, хвастатых, альбо нават падводных суайчыньнікаў, якія, на вялікі жаль, пакуль пазбаўленыя права голасу.

Аўтар спакваля вядзе нас да канцэптуальнай высновы пра тое, што пэўныя віды прадстаўнікоў нашае фаўны ў розныя пэрыяды гісторыі выяўлялі ляяльнасьць і нават прыхільнасьць да ўласнай нацыянальнай ўлады (напрыклад, прыязныя дачыненьні расамахаў з кіраўніцтвам Рады Случчыны) і пакідалі абсягі Беларусі, не жадаючы мірыцца з акупацыйнай адміністрацыяй.

Варта дадаць, што ў навуцы апісаныя выпадкі ня толькі пасыўнага, але й актыўнага супраціву акупантам з боку айчынных зьвяроў і птушак. Гістарыёграфы Слуцкага збройнага чыну ведаюць, да прыкладу, пра вельмі пасьпяховы напад аддзелу з 10-12 ужо згаданых вышэй расамахаў (Gulo gulo) на бальшавіцкага камісара і двух ягоных ардынарцаў, зьдзейсьнены ў ваколіцах мястэчка Семежава, што ў цяперашнім Капыльскім раёне. (На месцы акцыі нядаўна ўсталяваная мэмарыяльная стэла.)

У гістарычных крыніцах знойдзеныя й зьвесткі аб супрацоўніцтве ўжо рэдкіх на той час дрохваў (Otis tarda) з фармаваньнямі генэрала Булак-Балаховіча ў справе дывэрсіяў на кантраляваных бальшавікамі палескіх чыгунках. Акурат пасьля аднаго з удалых выхадаў на «жалезку», калі ў раёне Петрыкава быў зьнішчаны вайсковы эшалён з тэхнікай, ГПУ й наладзіла карную экспэдыцыю, у ходзе якой чэкіст, былы піцерскі рабочы Біндзюжнікаў расстраляў апошнюю бачаную ў Беларусі драхву, вядомую балахоўцам пад любоўнай мянушкаю Маня.

Згаданыя факты лішні раз сьведчаць, што эўрапейская будучыня Бацькаўшчыны станецца магчымаю адно ў выніку яднаньня ўсіх дэмакратычных плыняў нашага грамадзтва са здаровымі, нацыянальна арыентаванымі сіламі беларускае прыроды. Лепшыя старонкі кнігі Сяргея Харэўскага прасякнутыя сьветлай верою ў непазьбежнасьць гэтага пераможнага альянсу.

**Уладзімер Арлоў**

# СТО БЕЛАРУСКІХ КНІГ XX СТАГОДЗЬДЗЯ

За тыя амаль два гады, якія ў «НН» праводзіцца апытаньне чытачоў «Сто беларускіх кніг XX ст.», рэйтынг найлепшых кніг зьмяняўся некалькі разоў. Толькі «Вянок» Максіма Багдановіча застаецца нязьменна галоўнай кнігай беларусаў у гэтым стагодзьдзі. Што да астатніх, дык некаторыя кнігі, заўважаныя нашымі чытачамі адразу пасьля іх выхаду ў сьвет, цяпер нібы забытыя – іх рэйтынг застыў на нязьменнай кропцы. Адначасова падымаюцца пазыцыі клясыкі, якая выдавалася не адзін раз, якую ведаюць са школы і якую можна ўзяць у бібліятэцы. У агульным рэдакцыйным сьпісе колькасьць назваў дабралася ўжо да магічнае лічбы «666». Нагадаем, што тэрмін апытаньня разьлічаны да 2000 году.

Сярод апошніх допісаў – ліст Лелі Гатальскай зь Менску, якахя піша: «Паважаная рэдакцыя, атрымліваючы новы нумар газэты, заўсёды праглядаю сьпіс лепшых кніг XX ст. З прыемнасьцю адзначаю сама сабе, што большасьць кніг добра вядомая мне і, калі не займае ў сэрцы «пачэсны пасад», дык месьціцца і ня ў самым далёкім кутку. Вось я і вырашыла далучыць свой сьпіс да агульнага».

З тых твораў, якія яшчэ не называліся нашымі чытачамі, сп. Гатальская згадала апавяданьне Васіля Быкава «На Чорных лядах» з апошняе кнігі пісьменьніка «Сьцяна», раман «Пошукі будучыні» Кузьмы Чорнага, паэму Янкі Купалы «Курган». Акрамя гэтага, сп. Гатальская ўпершыню згадала і аўтараў, якія раней не называліся нашымі карэспандэнтамі: Уладзімера Самойлу (эсэ «Гэтым пераможаш»), Аляксея Дударава (п'еса «Вечар») і Віктара Казько (раман «Неруш»).

Уладзімер Аніськевіч з Баранавіч дадаў свой голас да ўжо згадваных выданьняў, а Сяргей Званар зь Менску паміж кніг, якія ўжо называліся, пералічыў і такія, што фігуруюць у чытацкай пошце ўпершыню: «Бясьсьмертнік» Самсона Пярловіча, «Случарыны» Валянціны Аколавай, кнігу крытыкі Натальлі Кузьміч «Абсягі», «Талісман» Ніла Гілевіча і манаграфію Арцёма Баханькова «Лексыкалёгія сучаснай беларускай літаратурнай мовы».

Выніковы рэйтынг «Ста беларускіх кніг XX ст.» сёньня выглядае наступным чынам (называем толькі тыя выданьні, якія набралі 10 і болей чытачоўскіх галасоў. Сума галасоў падаецца ў дужках).

**Крыт.**

**Багдановіч Максім. Вянок (31)**
**Быкаў Васіль. Знак бяды (28)**
**Караткевіч Уладзімер. Дзікае паляваньне караля Стаха (26)**
**Геніюш Ларыса. Споведзь (25)**
**Колас Якуб. Новая Зямля (25)**
**Сагановіч Генадзь. Невядомая вайна (24)**
**Тарашкевіч Браніслаў. Беларуская граматыка для школаў (24)**
**Ермаловіч Мікола. Старажытная Беларусь (22)**
**Быкаў Васіль. Сотнікаў (21)**
**Караткевіч Уладзімер. Каласы пад сярпом тваім (21)**
**Купала Янка. Спадчына (21)**
**Ластоўскі Вацлаў. Кароткая гісторыя Беларусі (21)**
**Смоліч Аркадзь. Геаграфія Беларусі (21)**
**Ігнатоўскі Усевалад. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (20)**
**Караткевіч Уладзімер. Чорны замак Альшанскі (20)**
**Арсеньнева Натальля. Пад сінім небам (19)**
**Мележ Іван. Людзі на балоце (19)**
**Туронак Юры. Беларусь пад нямецкай акупацыяй (19)**
**Аляхновіч Францішак. У кіпцюрох ГПУ (18)**
**Колас Якуб. На ростанях (18)**
**Купала Янка. Жалейка (18)**
**Гарэцкі Максім. Рунь (17)**
**Тарасаў Кастусь. Памяць пра легенды (17)**
**Віцьбіч Юрка. Плыве з-пад сьвятое гары Нёман (16)**
**Ермаловіч Мікола. Па сьлядах аднаго міта (16)**
**Караткевіч Уладзімер. Хрыстос прызямліўся ў Гародні (16)**
**Маўр Янка. Палескія рабінзоны (16)**
**Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі. І і ІІ т. (16)**
**Арлоў Уладзімер. Таямніцы полацкай гісторыі (15)**
**Караткевіч Уладзімер. Зямля пад белымі крыламі (14)**
**Ластоўскі Вацлаў. Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік (14)**
**Чаропка Вітаўт. Імя ў летапісе (14)**
**Гарэцкі Максім. Гісторыя беларускай літаратуры (13)**
**Гарэцкі Максім. Дзьве душы (13)**
**Абдзіраловіч Ігнат. Адвечным шляхам (12)**
**Беларусь. Энцыкляпэдычны даведнік (12)**
**Геніюш Ларыса. Ад родных ніў (12)**
**Колас Якуб. Сымон-музыка (12)**
**Ткачоў Міхась. Замкі Беларусі (12)**
**Адамовіч Алесь, Брыль Янка, Калесьнік Уладзімер. Я з вогненнай вёскі (11)**
**Быкаў Васіль. Сьцяна (11)**
**Гарун Алесь. Матчын дар (11)**
**Доўнар-Запольскі Мітрафан. Гісторыя Беларусі (11)**
**Кіпель Вітаўт. Беларусы ў ЗША (11)**
**Ластоўскі Вацлаў. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі (11)**
**Разанаў Алесь. Вастрыё стралы (11)**
**Цётка. Хрэст на свабоду (11)**
**Акула Кастусь. Змагарныя дарогі (10)**
**Алексіевіч. У вайны не жаночае аблічча (10)**
**Архітэктура Беларусі. Энцыкляпэдыя (10)**
**Быкаў Васіль. Альпійская баляда (10)**
**Гілевіч Ніл. Родныя дзеці (10)**
**Дайнека Леанід. Сьлед ваўкалака (10)**
**Калубовіч Аўген. Крокі гісторыі (10)**
**Сямашка. Армія Краёва на Беларусі (10)**

# НАВІНКІ




**Каталёг пазацэнзурнага пэрыядычнага друку Беларусі: 1971-1990 / Укладальнікі: Юрась Лаўрык і Ларыса Андросік; Рэдактар: Уладзімер Арлоў.** – Менск, 1998. – (Архіў Найноўшае Гісторыі)

*Каталёг пазацэнзурнага друку маніфэстуе пра існаваньне традыцыі вольнага слова ў Беларусі, пра ўсьведамленьне беларускім грамадзтвам вартасьці свабоды друку. З пазыцыяў сёньняшняга дня мы ўзгадваем ня толькі лібэральны пэрыяд першай паловы 90-х – пасьля аднаўленьня беларускае незалежнасьці, але і 60-я, 70-я, 80-я, калі ўмовы для выдавецкай дзейнасьці былі яшчэ значна больш складаныя чым нават сёньня, а прыхільнікам вольнага слова пагражалі сапраўдныя рэпрэсіі.*

Каб атрымаць кнігу, трэба 112.000. рублёў плюс 16.000 за паштовую перасылку пералічыць на рахунак:

БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поиск» Мінск, код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» ўказаць назву кнігі, Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

Зьвяртацца можна праз пошту: а/с 71 Менск 220123

Сергей Дубавец
Русская книга

**Сергей Дубавец. Русская книга.** – Менск, 1998.

*Аўтар дае свае адказы на пытаньні, якія ставіць беларуская рэчаіснасьць. Кніга наўмысна скіраваная да расейскага і расейскамоўнага чытача.*

Каб атрымаць кнігу, трэба 86.000. рублёў плюс 15.000 за паштовую перасылку пералічыць на рахунак:

БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поиск» Мінск, код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары <Для пісьмовага паведамленьня> ўказаць назву кнігі і Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

Зьвяртацца можна праз пошту: а/с 5 Менск 220085

– Ты знаеш, – нарэшце парушыў маўчаньне Белы, – гэта пажарышча. Пажар Імпэрыі, ім не да венскіх крэслаў. Яны й ня думалі, што такое зарыва падымаецца. Ім страшна... А для нас ахвяра. Кожнаму свая. Нам для сябе трэба гэта зрабіць, як ты думаеш? – ён выразна зірнуў на мяне. – Дома ўжо быў?

– Не. Я пайду да Опэрнага.

– Добра. Канечне, сходзім. Відовішча супэр, – Белы падняўся, цяжка выдыхнуў, – паўдня да вечара ў нас з табой ёсьць. Трэба пагаварыць. Я раскажу, хто ёсьць хто. І як тут усё падарвалася.

***

Ужо вечарэла, калі мы сабраліся да Опэрнага.

Мы йшлі моўчкі, разьмерана, я нават зважыў, у нагу. Пачынала зьмяркацца. Тысячагадовы горад стаяў, як чумны, нежылы, у хмурным сутоньні. Ані агеньку. Панад вокнамі, быццам пасьля пажараў, чарнелі аддушыны сажы.

Задзьмувала. Было холадна, і ўдваёх ішлося неяк ямчэй. Мы ўнурана хуталіся, кожны ў сваё, вуліцу за намі па адным перабягалі абрыўкі сьмецьця. Трымцела на холадзе, абвастралася голае вецьце – калянае, ломкае, здавалася, зараз хрусьне ад сьцюжы. Сярод дрогкіх, здранцьвелых галінаў стылі пустэльныя плошчы, правулкі, будынкі.

Белы запаліў; ён па-старэчы моршчыўся, зацягваючыся, і зацята прыкашліваў.

– Тут трэба будзе падумаць, чуеш, – цяжка сказаў ён.

Канечне.

Мы прыстоілі на пераходзе, здалёк прапускаючы рэдкую машыну.

– Вось на гэтым месцы, – вырак Белы, паказаўшы цыгарэтай туды й сюды, нібы пераксьціўшы, – недзе тут, – і дымок вобразна растаў між пальцаў у паветры, – згінула Вялікае Княства Літоўскае. Між царквой і касьцёлам.

Так і ёсьць. За нашай сьпіной уставала Катэдра, перад намі – Сьвята-Духаў сабор.

– Таксама кнігі палілі, – невыразна скрозь цыгарэту, выскаліўся Белы, – бач, чым скончылі. А з царквой што зрабілі. – Ён грэбліва выпусьціў дым. – Калекі. Гэта ж трэба, угару асфальтавыя дарожкі. Тут такую лесьвіцу ў неба можна было адгрохаць, такі пад'ём!..

Белы зацягваўся з прымружам; зыркім агеньчыкам успыхвала цыгарэта. Ён высмоктваў зь яе свае ёдкія сказы, сэкунду абдумваў і выпускаў, любуючыся імі, як дымным выдахам. Гэта былі яго хвіліны.

– Знакамітае месца, – ён прыцэліўся цыгарэтай наперад. – Тут БТРы стаялі.

Ён стрэліў попелам, прыстоіў; я таксама спыніўся. Перад намі далёка з гары халадзела празрыстая панарама.

– У тую самую ноч... На праспэкце народ, разумееш. Падзеі поўнай ходой. Палац ужо заперлі, усё гатова, – ён выдыхнуў. – І тут паніка. Па Машэрава БТРы ідуць. Страх што творыцца... – пырхнуў попелам. – А яны тут стаялі, ну, вунь там, перад мостам, і ўсё. Стоп. Усе чакалі, думалі, пойдуць. Усю ноч, разумееш... Шэсьць раніцы, Часовы Камітэт па радыё выступае, яшчэ нічога ня ясна, усе трасуцца, хто дзе. Думалі, толькі кранучца – і накрывайся.

Ён памаўчаў.

– Толькі пад вечар дрогнулі. Газанулі, усе ў воблаках дыму – і разам задні ход... Пайшлі, на той бок пяройдзем.

Мы спускаліся ў вулічную даліну.

– Гісторыя, – зацягваючыся, сказаў Белы, – на гэтых лугах Чарадзей з Русьсю сышоўся. Няміга крывавая, Менскі замак, Замчышча. Цэрквы вакол. Духовыя мясьціны, – дым бясьследна разьвеяўся.

– Вось табе й Няміга, – працягваў ён, скаўтнуўшы. – За расейскім часам зрабілі сьмярдзючы сьцёк. Выграбную яму ўсяму гораду. На Сьвіслачы паводка, – ён зморшчыўся, – а тут усё дзярмо, усе памыі ўсплываюць, уяўляеш? Падымаецца, затапляе падвалы, у дварох да калена стаіць. І, рукой падаць, таўкучка. Ніжні рынак. Гандляры, мянялы, прытоны. Нечысьць усякая. Крымінальшчына аж кішэла. Карацей, прорва. У самую душу гадзілі...

Выдых быў незвычайна доўгі. Мы ўвайшлі ў цёмны пераход, і твар Белага зьнік у цемры. Толькі маякаваў чырвоны агеньчык.

– Калі ў гэтага гораду ёсьць нешта сьвятое, – ён сказаў, і глухаватае рэха азвалася ў скляпеньнях, – то яно тут.

На глыбіні, пад намі, маўчала бяздонная станцыя мэтро.

Мы выбраліся на бераг Сьвіслачы, на самы вецер, выйшлі на мост. На тым беразе высіўся асьветлены агнямі гмах гатэлю. Ад электрычнага сьвятла ён выглядаў яшчэ больш аграмадным. Здавалася, велізарны зіхоткі слуп стаіць да неба і сыходзіць у нетры водаў.

– Нішто сабе ілюмінацыя, га? – сплюнуў Белы. – Міжнародныя прадстаўніцтвы, уся Эўропа. Называецца «ціха, ідуць перамовы».

Чайкі нешта адчайна крычалі па-над вадою. Паўзь бераг клявалі некалькі рыбакоў.

А перад намі ўжо падымаліся на гару вастраверхія дахі Траецкага, пастаўленыя адзін на адно. Вечная дарога. Стары добры ходнік з выбоінамі на памяць. Ходнік, як калідор, дзьверы на кожным кроку. Крок, яшчэ крок, уваход у клюб з мноствам шыльдачак.

Зачынена.

Ня можа быць. Я яшчэ раз страсянуў за ручку.

– Ну, зачынена, – Белы пасьміхнуўся й акуратна скрышыў кавалачак попелу на падваконьне. – Пераехалі. Яны зараз хто на праспэкце, хто на Незалежнасьці. Частка ў Драздах. А ты зайсьці хацеў?

Вядома. Я тупа глядзеў у глыбокія вокны, глядзеў, як у ваду.

– Пайшлі, – Белы таргануў мяне за локаць, – яны працуюць. У іх працы да горла. Ніколі ў жыцьці, разумееш, не займаліся тым жа вугалем ці квотамі на экспарт. Зараз ім гэта дужа цікава, – кароткі агеньчык пыхаў усё зьлей. – Зараз кармільцы. Бляха. Закасалі сьпінжакі да плеч.

Мы ўжо падыходзілі да парку. Скрозь дрэвы каля Опэрнага, у туманных дымах, разглядаліся людзкія постаці. Скрадвалася зьмярканьне. Дым брыў між дрэваў, быццам прывідны статак, і клубамі спускаўся ў даліну ракі.

*Працяг на старонцы 14*

# ЯПОНСКІ ДАСТАЕЎСКІ

**Славуты японскі кінарэжысэр Акіра Курасава памёр у сваім доме ў Токіё, маючы 88 гадоў. Стывэн Сьпілбэрг заўважыў: «Памёр Шэкспір сучаснага кіно». Прычына сьмерці пакуль невядомая.**



Сусьветная слава Курасавы пачалася ў 1951 годзе, калі ягоны «Расёмон» перамог на фэстывалі ў Вэнэцыі. Пазьней гэты фільм атрымаў Оскара, гэтаксама як і «Дэрсу Узала» (1975) –настальгічная аповесьць пра сібірскага паляўнічага.

«Рудабародага» Курасава здымаў два гады, за што паплаціўся нэрвовым зрывам. Пра яго пісалі, што ён найбольш заходні зь японскіх рэжысэраў. Гэта таму, што ён часта зьвяртаўся да эўрапейскай літаратуры. «Трон у крыві» (1957) – гэта ягоная вэрсія «Макбэта», «Ран» (1985) – «Караля Ліра», а «Злы сьпіць спакойна» (1960) – варыяцыя на тэму «Гамлета». «Гакучы» (1951) узяўся з «Ідыёта» Дастаеўскага, а ў 1958 годзе Курасава экранізаваў «На дне» Горкага.

Курасава нарадзіўся ў 1910 годзе ў Токіо, у сям'і з самурайскімі традыцыямі, ён быў наймалодшым з васьмярых дзяцей. Ягоны бацька працаваў адміністратарам вайсковай школы. Курасава зьбіраўся стаць мастаком, аднак не паступіў у Акадэмію мастацтваў. У 1936 годзе ён стаў асыстэнтам кінарэжысэра. Ягоны ўласны рэжысэрскі дэбют – «Легенда пра юдо» (1943), якая мела вялікі посьпех, нягледзячы на тое, што погляды рэжысэра не супадалі з нацыяналістычнымі візіямі, афіцыйнымі ў ваеннай Японіі. Курасава аказаўся выдатным псыхолягам і дасьледнікам чалавечых характараў. У сваіх творах ён зазнаў моцны ўплыў італьянскага нэарэалізму («П'яны анёл», 1948). Разам з тым ён адлюстроўваў эпоху ўпадку самураяў («Сямёра самураяў», 1954). Як заўважыў адзін зь ягоных актораў, стары Курасава вяртаўся да жыцьця толькі тады, калі рабіў фільмы.

Сьмерць мэтра сталася нагодаю для яшчэ аднаго выдатнага рэжысэра – Анджэя Вады надрукаваць ягонае ніколі не публікаванае інтэрвію з Курасавам, узятае зімою 1989 году. Вось фрагмэнты гэтае гутаркі:

**ВАЙДА**: *Вы зрабілі шмат фільмаў паводле эўрапейскае літаратуры. Асабіста мяне зьдзіўляе Вашае глыбокае разуменьне гэтай літаратуры...*

**КУРАСАВА**: Маё пакаленьне вывучала эўрапейскую літаратуру. Дастаеўскага і Шэксьпіра мы чыталі ў гімназіі і таму ў маім да іх інтарэсе няма нічога ненатуральнага.

**ВАЙДА**: *Ці ў СССР цяжка было зрабіць фільм «Дэрсу Узала»?*

**КУРАСАВА**: Нашмат лягчэй, чым у Японіі. Прадусар абяцаў мне поўную свабоду і вытрымаў слова. Праўда, я ня мог падпарадкаваць сабе прыроду. Таму здымкі рабіліся значна даўжэй, чым я меркаваў.

**ВАЙДА**: *Ці заўсёды перад пачаткам працы Вы рыхтуеце малюнкі?*

**КУРАСАВА**: Спачатку я пачынаў маляваць асобныя сцэны, каб лепей зразумець, чаго мне хочацца. Цяпер гэта робяць мае памочнікі. Усё здымаецца трыма камэрамі. Камэра A здымае агульны плян, камэра B – кагосьці з актораў, а камэра C –напрыклад, рух сабакі. Гэты мэтад дазваляе мне трыма камэрамі адначасова паказваць на экране актора, які трымаецца ў тым самым эмацыйным напале. І пры мантажы гэты напал не губляецца. Акрамя таго, тры камэры вельмі ашчаджаюць час.



**ВАЙДА**: *Напэўна і асьвятленьне для кожна камэры сваё?*

**КУРАСАВА**: Так. З гэтай мэтай сьцены ў студыі рухомыя, іх лёгка перастаўляць. Я пачаў гэтую мэтоду ўжываць на здымках «Семярох самураяў», калі мы фільмавалі бітву пад дажджом. Тры камэры дазваляюць выхапіць зь бітвы пэўныя яскравыя фрагмэнты.

**ВАЙДА**: *Некаторыя маладыя рэжысэры больш захапляюцца самім працэсам здымак, чым канчатковым вынікам.*

**КУРАСАВА**: Таму я заўсёды падкрэсьліваю, што фільм – гэта мантаж. Кожны дзень я зьбіраю да кучы адзьняты матэрыял і пачынаю мантаваць. Тое, што раблю, паказваю групе, якая інакш ня можа зарыентавацца, у якім кірунку я іду.

«Gazeta Wyborcza»

# ПАЛЕНЬНЕ

*Працяг са старонкі 13*

– Думаюць, перакулілі пару машынаў на праспэкце, і ўлада перавярнулася, – Белы йшоў усё шпарчэй, хваравіта крывіўся, цыгарэта імкліва згарала кароткімі перабежкамі. – Так не бывае.

Ён быў узбуджаны, ён задыхаўся, і не ад хады; пара з роту часьціла хутчэй за яго зацяжкі:

– Павер мне, усё яшчэ толькі пачынаецца, – ён панізіў голас, і зацягнуўся так моцна, што праваліліся шчокі, – і гэта бдзе значна страшней, чым здаецца.

Помніш, Беленькі, помніш, чорт пабірай, гэта вось так, *напаўголаса прагуляцца*, мы выходзілі з Траецкага – тады, калі ўсё праслухоўвалася, калі ўжо ранкам да зарэзу былі патрэбныя ўлёткі ці машына, кудысьці выехаць!..

– Бач, усёй-та дарогі на адну цыгарэціну... Стой, – ён раптоўна спыніўся, дапаліў і імпэтна, зь іскрамі, усёй пяцярнёй пстрыкнуў свайго залатога бычка прэч. Я ледзь ня кінуўся падабраць яго сабе, яшчэ гарачага. – Вайна пачынаецца тут, ля Опэрнага... Вайна на паражэньне, бяз дурняў.

Ён рашуча прытрымаў мяне за плячо, каб я зірнуў яму ў вочы:

– Патрэбны таемны Ордэн, ты разумееш. Езуіцкі, паўсюдны. Трэба дзейнічаць. Чуеш, я хаджу сюды кожнага вечару, да гэтых кастроў. Тут такія людзі зьбіраюцца, страшная сіла.

Ён нават нэрвова зьняў акуляры, з сутаргай праціраючы іх падкладкаю паліто. Мяне ўразіла, якія ў яго бяз шкла запаленыя, стомленыя вочы, як абварана выглядае твар, быццам ён і скуру садраў з акулярамі разам.

– Што ты скажаш: сядзіш сабе ўвечары, слухаеш радыё, і раптам зашкальвае FM-хваля, дзіка беларуская... а перадатчык недзе ў тваім мікараёне, можа быць, на даху насупраць, – яго чорныя вочы шалёна блішчэлі, – ці калі табе поштай, як падарунак, невядома адкуль прыходзяць лепшыя кнігі й кампакты... Ці –кампутаровы вірус, які зьбеларушчвае ўсе жывыя праграмы, усе, што ёсьць, да апошняй кропкі над «і», наскрозь, з прысьвістам, зь мяккімі знакамі... Што скажаш? Гэта псыхатропы, удар пад сьвядомасьць. Вайна на ўзроўні.

Так казаў Белы. Каўнер паліто стаяў рубам па самыя скулы. Вецер ледзь варушыў жорсткія чорныя валасы, і адзіная струнка сівізны трымцела на скроні ля вуха, штосьці нашэптвала. Мяне дрыготка перасмыкнула праз холад.

Кнігі былі згружаныя на ўсёй плошчы. Рассыпаныя, у развалах, масыўнай растрэснутай кладкай. Нібы аграмадныя белакаменныя руіны. Угадваліся прасьценкі й рассаджаныя праймы, праваленыя прыступкі, груды белае пліткі ды цэглы. У некалькіх канцах дымілі кастры й корпаліся людзі; асноўны натоўп зьбіраўся каля ўваходу ў Опэрны.

Людзі ўсё падыходзілі; падвальвала моладзь. Паўз нас прайшла гурба шпаны, груба, плячом у плячо, штосьць пажоўваючы. Я непрыемна падцяўся. Такія падлеткам зьбівалі мяне з ног. Падцягваліся нефармалы: хто парамі ў абдымку, хто цэлымі табарамі, з маленькімі скуранымі пляцакамі, мэталёвымі клёпкамі й дзявочым дурасьлівым сьмехам. Маладыя тых гадоў, зь якімі я ўсё часьцей успамінаю сябе.

Гэта было страшна. Абвал кніг, якія раптам рухнуць з усіх паліцаў. Я перабіраўся цераз завалы; здавалася, трушчыш косьці. Тут былі цэлымі партыямі аднолькавыя, з кнігарняў ды бібліятэк, новенькія, на нюх канцылярскія; былі вокладкі, якія мне нічога не казалі; былі й такія, што хвалявалі мяне найбольш. Дамашнія разваліны, тамы пажылыя, з характарам, пацямнелыя і ўспухлыя ад пальцаў ды тытуню. Не кранай нічога. Помню, малым корпаўся ў магільніках хатняга хламу ад зьнесеных прыватных дамоў, потым маці з жахам мыла мне рукі: ты што, такая халера, заразісься...

Тут быў Ясенін, прамоклым лісьцікам у брудзе. Яго так любіла сястра, нават, можна сказаць, кахала. Гоголь. Мёртвыя душы. Ізноў аб Пушкіна. Ох, Высоцкі. Высоцкага шкада. Ізумрудны Дзюма, а гэта яшчэ што за навіны.

Нейкі стары, прафэсарскага выгляду, набраўшы ахапак кніг, асьцярожна перабіраўся ўзбоч, хрыпеў і адыхваўся; падобна было, што яму далі пад дых:

– Сволочи... Варвары, это же преступление...

Белы рэзка абярнуўся:

– Эй ты, дзед! – і быццам стрэліў зь пісталета, так выцяў руку, указваючы яму пальцам: – Запомні, гэта *пакараньне!*

Стары, здаецца, проста не зразумеў.

Расхрыстаная кніга валялася на грэбні кучы; вецер гартаў старонкі. Запусьценьне дваранскіх сядзібаў. Дарэчы, Бунін. Нейкая дробналісьцёвая паэзія россыпам. Малафарматныя вершы. І дымны попах па-над усім, пахмурны й трывожны. Позьняя восень, калі ў дварох зграбаюць і паляць палае лісьце.

Падручнік біялёгіі, вось табе на. Той самы, які я калісьці згубіў, шукаў, ды так і ня здаў у школьную бібліятэку. Я не ўтрымаўся, прысеў, узяў у рукі. Белы крануў мяне за плячо:

– Я там буду, – паказаў за сцэну, – падыходзь. Ёсьць з кім пагаварыць.

І пайшоў, падфутболіўшы дарогаю нейкі томік.

Я перабіраў і ніяк ня мог адарвацца. На гэтай плошчы, пад адкрытым небам, сярод гэтых соцень тысячаў іншых кніг, былі зваленыя мае юныя гады, разораныя, у дыме, упярэмешку зь дзіцячай парою. Я знаходзіў у незьлічоным розруху ўсё – і страчанае калісьці, і з даўнасьці памятнае. Тут валяўся «Порт-Артур» у двох тамах, разам з самаробнымі, з дошак, коркаў і цьвікоў, караблямі, якія мы выпрабоўвалі ў затопленым катлаване; Прышвін, на канапе з нагамі, упрыкуску з мытым белым налівам, з сокам і семачкамі; Ціхі Дон, такі ціхі, што чуваць цікі часу, чаканьне бацькі, які павінен прыехаць увечары, – і нават бяздарная, піянэрская, выпадкова чытаная кніжка пра «Злачынства ля зялёнай тоні»... У гэтай тоні таілася прыкрая, душная пераадзявальня ў падвальнай самбісцкай сэкцыі, млявасьць у зьнясіленым целе пасьля трэніроўкі, і выхад на вольную сьвежую вуліцу.

Яшчэ, яшчэ, я чуў пра сябе прыдыханьне калекцыянэра. Я хваляваўся, ліхаманкава перабіраў, разварушваў груды пылістага паху; з усіх бакоў мне даносіліся галасы; я нешта хапаў з сабой, пасьля кідаў, каб узяць іншае. Нахлынала, успаміналася ўсё пазабытае, а забытага аказвалася так многа!..

Немінуча цямнела. Радкі зьмяркаліся, я ледзь разьбіраў, ва што ўчытваюся, і ніяк ня мог спыніцца. Нарэшце, падняўся; зморана хрумснула ў суставах. Агледзеўся вакол. Цемрадзь. У галаве вяло ад перажытага. Ніколі да таго не чыталася мне па-расейску так многа, так сьпехам, усухамяць, і з такім пачуцьцём – ды ніколі ўжо, пэўна, не давядзецца.

Было халодна, рукі проста скалелі. Там, ля Опэрнага, усё ярчэй разгаралася ахвярнае вогнішча. І я пайшоў на вагонь.

На сцэне ўжо рыхтавалі канцэрт. Гулка грохалі, расстаўляючы тумбы калёнак і турнікі; усё працінаў стык жалезьзя. Раптоўна раўнула, перакрываючы рэхам навакольле: пачыналі настройваць апаратуру. Нехта, выспрабоўваючы ўдарнікі, бухаў змрочна й манатонна, і брохат абуджана аддаваўся пад купалам цемры.

Опэрны стаяў маўкліва, як і падабае аграмаднаму капішчу. У цьмяных вокнах ані водбліску. Дах тануў у цямрэчы, і ўяўлялася, нібы там, у нябачнай чорнай званьніцы, б'е тамтам.

Паўсюль сьцішана гаманілі й штурхаліся. Я падышоў

